Руслан Кулевіч

# ГОРАД АДЗІН, УСПАМІНЫ РОЗНЫЯ

## Гродна 1930–40-х вачыма жыхароў

Гродна
«ЮрСаПрынт»
2018

УДК 929.52
ББК 63.3(4БЕИ)
К90

*У кнізе выкарыстаны здымкі рэспандэнтаў, калекцыянера
Фелікса Варашыльскага і гісторыка Андрэя Вашкевіча,
а таксама з фондаў Гродзенскага дзяржаўнага
гісторыка-археалагічнага музея*

**Кулевіч, Р. Ч.**
К90 Горад адзін, успаміны розныя: Гродна 1930–40-х вачыма жыхароў / Руслан Кулевіч. – Гродна : ЮрСаПрынт, 2018. – 116 с.

ISBN 978-985-7134-60-1

Кніга змяшчае ўспаміны шаснаццаці жыхароў Гродна пра перыяд 1930–1940 гг., а таксама фотаздымкі з іх сямейных архіваў і выявы тагачаснага горада. Героі распавядаюць гісторыі свайго дзяцінства і юнацтва, апісываюць падзеі пры зменах улады і тодзённае жыццё гараджан. Адрасуецца шырокаму колу чытачоў.

**УДК 929.52**
**ББК 63.3(4БЕИ)**

**ISBN 978-985-7134-60-1**

# ЗМЕСТ

# Уступ

## АПОШНІЯ СВЕДКІ СТАРОГА ГРОДНА

У аснову гэтай кнігі пакладзены ўспаміны шаснаццаці жыхароў горада Гродна, якія перажылі ў сваім дзяцінстве і маладосці сур'ёзныя цяжкасці, такія, што нам, сучасным людзям, складана ўявіць. Гэта неаднаразовая змена ўлады, вайна, зняволенні, пагромы, прымусовыя работы і высылкі. І ўсё гэта адбывалася ў адным горадзе ў перыяд з сярэдзіны 1930-х гадоў да заканчэння Другой сусветнай вайны. Некаторыя гісторыі незвычайныя і ў сваім родзе ўнікальныя, бо раней пра падобныя выпадкі ў Гродне не даводзілася чуць нават гісторыкам.

Кожная старонка гэтай кнігі распавядае пра пэўны перыяд з жыцця адной гродзенскай сям'і. Я паспрабаваў падаць для вас гэтыя ўспаміны даступна і зразумела, а з дапамогай фотаздымкаў паказаў, як гэтыя людзі выглядалі ў міжваенны, ваенны час і на момант інтэрв'ю.

Кнігу назваў "Горад адзін, успаміны розныя", бо ўсе рэспандэнты жылі ў адным горадзе, але маюць часам зусім рознае стаўленне да адных і тых жа падзеяў, розныя ўспаміны. Многія распавядаюць пра прыход саветаў у верасні 1939 года, мясцовых яўрэяў, якія складалі палову насельніцтва міжваеннага Гродна. Успамінаюць, як з імі сябравалі і хадзілі ў іх крамы, ці, наадварот, якія былі пагромы і бойкі. Асабліва цікавыя ўспаміны, звязаныя з перыядам нямецкай акупацыі Гродна, калі немцы стварылі гета, а мясцовыя яўрэі спрабавалі хавацца ў знаёмых ці сяброў (хрысціян). Хтосьці ім дапамагаў, а хтосьці не стаў гэта рабіць пад страхам расстрэлу.

У першую чаргу я ставіў перад сабой мэту назбіраць як мага больш успамінаў, пакуль старажылы яшчэ жывуць і нешта памятаюць. За 2018 год на ровары я аб'ехаў практычна ўвесь Гродна ў пошуках людзей, гатовых расказаць свае гісторыі. За гэты перыяд мною было сабрана больш за трыццаць успамінаў і каля сотні здымкаў з жыцця гродзенцаў, у асноўным даваеннага перыяду. Давялося мне сустрэць на вуліцах старога Гродна і двух чалавек, якія адразу пасля вайны вымушаныя былі пакінуць родны горад і вярнуліся толькі праз доўгія гады.

Гэта не навуковае выданне, як звычайна бывае са зборамі старых успамінаў. Усе запісы размоў былі перапрацаваныя, каб выявіць самае цікавае, захаваць жывасць аповяду і ў зручнай не толькі для адмыслоўцаў форме паказаць вобразы даўняга Гродна.

Гэта кніга – адна з апошніх спробаў захаваць успаміны пра горад даваенных часоў і гадоў акупацыі. Людзей, якія маглі бы расказаць больш пра тыя падзеі, становіцца ўсё менш. Не выключана, што ўжо праз год-два такую ж кнігу напісаць не атрымаецца.

* * *

Карыстаючыся выпадкам, выказваю падзяку за каштоўныя парады і за дапамогу ў пошуку старажылаў рэдакцыі Hrodna.life, Алене Мішанёвай, Ірыне Давыдзік, Андрэю Вашкевічу і Таццяне Касатай-Герасюк.

*Руслан Кулевіч, 2018*



*Від на стары Гродна. 1930-я гг.*

# КАРЭННЫХ ГРОДЗЕНЦАЎ АМАЛЬ НЕ ЗАСТАЛОСЯ

## (Ежы Кежкоўскі)

*Ежы Мар'янавіч Кежкоўскі нарадзіўся ў 1928 годзе ў Варшаве. Каталік. Жыве ў Гродне з пачатку 1930-х гадоў. Вучыўся ў "батаруўцы"*[1]*. У міжваенны перыяд яго бацькі трымалі ў Гродне свае цырульні.*

Мама Ежы, з роду Макарчук, была карэннай гродзенкай і нарадзілася ў Гродне ў 1900 годзе. Уся яе сям'я Макарчукоў – праваслаўныя, якія вымушаныя былі эміграваць ва Украіну падчас Першай сусветнай вайны. Праз некалькі гадоў Макарчукі вяртаюцца ў Гродна. На той момант іх родны горад быў пад польскай уладай.

"Мама расказвала, што вярнуцца яе сям'і ў родны горад было складана. Была ўжо мытня, і яна не ўсіх прапускала. Пашанцавала, што мамчын тата быў ліцейнікам, і сям'і дазволілі вярнуцца дадому. З часам у Гродне жыццё стала наладжвацца, і мама выйшла замуж за польскага легіянера Кежкоўскага".

### *Трэба было хутка ажаніцца*

У касцёле не жадалі вянчаць бацькоў, прапаноўвалі дзяўчыне перайсці ў каталіцкую веру. Сям'я не наважылася на такі крок і пайшла ў праваслаўную царкву, дзе іх без праблем павянчалі.

"Бацькам трэба было хутка пажаніцца, бо тата ад'язджаў на фронт. На двары быў тады дзесьці 1920-ы год, і на мяжы з Польшчай было шмат бандытаў. Праз чатыры гады пасля жаніцьбы тата звальняецца з войска,

---

[1] Школа імя Стэфана Баторыя, у яе будынку зараз гуманітарны каледж на вуліцы Леніна.

бо на яго маглі падумаць, што ён шпіён – праз рускую жонку. Але нічога такога не было. У нас была нармальная сям'я. Мама дома малілася на рускай мове, тата на сваёй. Паміж сабой размаўлялі на польскай".

### *Вучыліся ў Варшаве, адкрылі дзве цырульні*

Пасля таго як бацька Ежы звольніўся з войска, ён прапанаваў жонцы пераехаць у Варшаву. Сям'я з Гродна ў сярэдзіне 1920-х з'ехала ў сталіцу. Там і нарадзіўся Ежы Мар'янавіч у 1928 годзе.

"У Варшаве маці скончыла курсы майстра па манікюры, а тата – цырульніка. Вучыліся яны ў французскіх і італьянскіх майстроў. За два гады навучання бацькі аддалі ў Варшаве больш за 2000 тагачасных польскіх марак. Жыць у сталіцы Польшчы сям'я не магла. Праз час мама запатрабавала ў бацькі вярнуцца ў родны Гродна".

Вярнуўшыся ў Гродна, сям'я Кежкоўскіх вырашыла адкрыць свой бізнес – цырульні. Досвед працы ўжо быў.

«У 1930-я ў нашай сям'і ўжо былі дзве цырульні першага разраду. Адну адкрылі ў раёне "76" (раён былых казармаў на Чырвонаармейскай, калі там быў 76-ы полк імя Людвіка Нарбута), а другую – на рагу Ажэшкі і Сацыялістычнай. Гэтага будынка цяпер ужо няма. Стрыгчыся да нас прыходзілі багатыя людзі, бо разрад цырульні дазваляў прымаць такіх кліентаў. Напрыклад, падстрыгчыся і пагаліцца ў нас можна было за 1,5 злотых, а вось у цырульнях трэцяга разраду стрыглі за 30–40 грошаў. Тады бацькоў маглі выклікаць і на дом. Памятаю, мама хадзіла да дырэктара банка, а каб да яго патрапіць, трэба было мець пропуск. Ці жонка палкоўніка Панасюка запрашала маці да сябе. Багатыя людзі маглі сабе гэта дазволіць».

Ежы Мар'янавіч распавядае, што ў 1930-я гады ў Гродне выклік цырульніка на дом каштаваў каля 2,5 злотых, але добрыя кліенты маглі плаціць і 5 злотых.

### *Жылі добра, пакуль бацька не звязаўся з азартнымі гульнямі*

Сям'я Кежкоўскіх добра зарабляла, і спачатку здымала кватэру ў раёне Сеннага рынку, а пасля – на Пілсудскага (сучасная Леніна).

«Дзяцінства сваё я памятаю добра. Пакуль я не хадзіў у школу, бацькі часам пакідалі мяне з яўрэйскай суседкай Сарай Наваравай.



*Ежы Кежкоўскі ў Друскеніках на фоне Нёмана. 1930-я гг.*

Потым, калі мне споўнілася сем гадоў, я пайшоў у школу. Спачатку вучыўся ў школе імя каралевы Ядвігі, а пасля таго як сям'я пераехала на вуліцу Пілсудскага, мяне перавялі ў "батаруўку". У першай маёй школе была дысцыпліна. Урокі ўвесь час пачыналіся з малітвы. А ў "батаруўцы" было лепш».

Кежкоўскія жылі добра да таго моманту, пакуль глава сямейства не стаў гуляць у азартныя гульні. Гэта яго загубіла і прывяло да развалу сям'і.

"Сям'я ў нас была не бедная, але тата збунтаваўся потым. Стаў гуляць у карты, здраджваў маме. Цэлы скандал у нас быў. Яго грошы загубілі, ён стаў вельмі азартным чалавекам. Акрамя карт гуляў яшчэ ў рулетку на сучаснай вуліцы Тэльмана. Шмат грошай сыходзіла на гульні, а плаціць падаткі за цырульні трэба было, і часам не было чым. Неяк выкручваліся бацькі. Але пасля сямейных праблем цырульні апусціліся да трэцяга разраду. У выніку бацькі канчаткова пасварыліся і разышліся. Тата паехаў у Варшаву, а маці са мной засталася ў Гродне".

### *Пераезд у Станіславова*[2]

Пасля разводу маці Ежы яшчэ некаторы час працавала цырульніцай, але пасля закінула гэтую справу. У 1938 годзе жанчына зноў пабралася шлюбам, гэтым разам са знаёмым беларусам, і пераехала з сынам жыць да яго ў Станіславова.

“Жылі мы там у бараках на былой каралеўскай тэрыторыі, у самім жа палацы ніхто не жыў. Там быў музей і бібліятэка, туды з мясцовых мала хто хадзіў”.

### *Пачатак Другой сусветнай, падрыхтоўка да абароны горада*

Толькі год сям’я нармальна жыла ў Станіславове, неўзабаве пачалася Другая сусветная вайна. Гродзенцы рыхтаваліся да абароны горада ад немцаў, а ў выніку прыйшлі саветы. Гэты перыяд жыцця Ежы запомніў вельмі добра.

«Яшчэ да нападу немцаў у 1939 годзе былі чуткі, што будзе вайна. Людзі вырашылі дапамагаць арміі рознымі спосабамі. Перад вайной я быў у лагеры, спачатку ў Парэччы, а пасля павінен быў быць яшчэ і ў Азёрах. Месяц у лагеры каштаваў каля 60 злотых. Але нас усіх адправілі дадому. Перад пачаткам вайны дзяцей сабралі ў школе і ўжо папярэджвалі, што немцы нападуць. У адзін дзень выступіў дырэктар “батаруўкі” і сказаў: “Дарагія мае дзеці, Польшча знаходзіцца ў вельмі цяжкай сітуацыі. Трэба ўзбраенне, хто можа чым дапамагчы: жалеза, грошы”. Я ўжо сабе ўяўляў, што такое вайна, хоць і зразумець не мог, што гэта насамрэч. Думаў, гэта як алавяныя салдацікі.

Я прыходжу дадому і адразу за гаршкі з крупамі бяруся, а маці пытаецца, што я варыць буду. Я ў адказ: нічога не буду, трэба для Польшчы. Сабраў гаршкі, а пасля пачаў у мамы прасіць грошы. Дзеці там прыносілі па 5–10 злотых, бедныя па 2. Мама вырашыла мне даць 50 грошаў. Я ёй у адказ: што ты мне даеш, за гэтыя грошы нічога нельга купіць, ані карабіна. Але мама казала, што за 5 злотых

[2] Загарадная рэзідэнцыя караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага, створаная ў другой палове XVIII ст. паводле праекта прыдворнага архітэктара Джузэпэ дэ Сака. Сёння раён сучаснай вуліцы Ціміразева.

можна тры дні жыць, а за 10 і тыдзень. Я кажу: "Мама, не трэба нам жыць, трэба абараняцца, 5 злотых і канец". У выніку яна дала мне 2 злотыя. Мы тады, школьнікі, думалі, што трэба абараняцца, а калі не абараняцца, то Польшча знікне з карты».

### *Маскі ад газу і вучэнні*

Перад пачаткам вайны некаторыя маладыя гродзенцы ішлі добраахвотнікамі ў войска. Рэкрутаў набіралі на вуліцы Бэма[3], каля казармаў, там акрамя формы выдавалі яшчэ супрацьгазавыя маскі, бо ў Гродне хадзілі чуткі, што немцы могуць скідаць з самалётаў газавыя бомбы. Гараджанам раілі шыць маскі самім.

"За пару дзён да вайны гарадскія ўлады абвясцілі, што польская авіяцыя правядзе пробны налёт на Гродна. Дзесьці ў 8 вечара. Пры вучэннях электрастанцыя выключаецца, пачынаюць працаваць санітары. Падчас такога пробнага налёту выла сірэна, па горадзе хадзіла паліцыя. Гараджанам выходзіць з дому было забаронена. Страшна і цёмна было ў горадзе. Праляцелі польскія самалёты. Пакружылі і паляцелі. Праз 30 хвілін святло ўключылі".

### *Прыгожыя скрынкі не чапаць*

Па ўспамінах Ежы, калі ў Гродне паведамілі, што немцы перайшлі мяжу, на чыгуначнай станцыі 76-ы полк, цалкам узброены, выпраўляўся на Варшаву. У Гродне тым часам рыхтавалі абарону.

«Вайна пачалася, а мы яшчэ ў школу пайшлі. У адзін дзень самалёты ляцелі, і мы з маім калегам Тадзікам схаваліся за вуглом дома і глядзелі, якія самалёты ляцяць. Убачыў два самалёты, але дакладна гэта былі злыдні. Артылерыя гарадская па іх страляла, але збіць не ўдалося. Самалёты паспелі кінуць бомбы на "76", але амаль не патрапілі. З пачаткам вайны казалі, што ў горадзе ёсць нямецкія шпіёны, якія на вуліцах горада раскідвалі розныя прыгожыя скрынкі, а калі падымеш іх, то яны выбухаюць. Улады папярэджвалі, каб гараджане нічога не падымалі на вуліцах».

---

[3] Размяшчалася за сённяшнім аўтавакзалам.



*Ежы Кежкоўскі ў школьнай форме “батаруўкі”*
*побач з маці. 1930-я гг.*

### *Першыя мазалі*

Прыблізна 15 верасня раніцай жыхароў Станіславова падняла паліцыя і ўсім загадала капаць акопы. Маўляў, немцы падыходзяць.

“Трэба было абараняцца, і ўсё Станіславова паднялося. Нават я ўзяў рыдлёўку і разам з Тадзікам пайшоў дапамагаць. Людзі казалі – наша польская моладзь тут. Я быў гарадскім хлапчуком і капаць не ўмеў, а сябра мой вясковым быў, і ў яго гэта лепш атрымлівалася. Пасля рыдлёўкі ў мяне мазалі былі. Потым да нас у дапамогу прыгналі жыхароў вёскі Падкрыжакі. І калі капалі, адзін мужык з той вёскі знаёмаму казаў, што польскі ўрад уцёк. Я спалохаўся, кінуў рыдлёўку, і думаю: што гэта робіцца – усё паўцякалі! Прыйшоў дадому, а ў нас у гасцях акурат быў дырэктар банка, які ўсё казаў, што цяжка, вельмі цяжка, а потым сышоў. Маці налівае мне есці, а я не магу есці. Столькі ў мяне было мазалёў, што не мог лыжку браць. Айчым мой казаў – вось жа ваяка, прыйдуць бальшавікі, я выдам цябе. Менавіта тады ўжо пайшлі чуткі, што прыйдуць у Гродна саветы”.

### *“Што вы тут бальшавікоў чакаеце?”*

З набліжэннем бальшавікоў да Гродна ў горадзе стала з’яўляцца мясцовая міліцыя з чырвонымі павязкамі. Ежы Мар’янавіч распавядае, што, па чутках, яўрэі, якія прытрымліваліся камуністычных поглядаў, нападалі на палякаў, якія адыходзілі.

«Я выйшаў неяк на вуліцу і ўбачыў польскую ўзброеную кавалерыю, за імі – конная і зенітная артылерыя. Былі і лётчыкі. Каля нас яны спыніліся, папрасілі паесці. Людзі ім дапамаглі, вынеслі малако і хлеб. Былі ў нас у Станіславова і тыя, хто прытрымліваўся камуністычных поглядаў. І хтосьці з іх стрэліў побач з польскімі салдатамі. Выйшаў тады з машыны капітан і сказаў: “Што вы тут бальшавікоў чакаеце? Як вам не сорамна!”. Людзі сталі абурацца. Два сяржанты падбеглі да аднаго бараку, а там жылі самыя-самыя заўзятыя польскія патрыёты. Праверылі дакументы і папрасілі прабачэння. Пасля паручнік выйшаў і сказаў капітану, што трэба ехаць. Салдаты адступілі да Літвы. Тым часам нашы загартаваныя жанчыны сталі думаць, хто ж стрэліў у афіцэраў. Яны набралі палак і грабель і пайшлі ў адзін дом, у якім, па чутках, збіраліся мясцовыя камуністы. Там аказаліся чатыры чалавекі. Як высветлілася, яны падгавары-

лі аднаго дурня, Сямёна, каб той стрэліў у бок салдат. Казалі яму: “Ты, Сямён, стрэльні, а яны ўсе ўцякуць і тады мы назбіраем шмат трафеяў”. Ён так і зрабіў, а пасля спалохаўся і ўцёк. Калі б яго знайшлі нашы жанчыны, то збілі б да паўсмерці».

### *Хацеў супрацiўляцца, але баяўся*

Калі ў Гродна прыйшлі камуністы, маці Ежы наважылася пайсці ў горад, каб купіць сыну рэчы ў школу. На вуліцах горада ўжо былі савецкія танкі.

“На плошчы Баторыя[4] адзін танк мясцовыя падпалілі, побач з кіно гарэў яшчэ адзін. Абаронцаў у Гродне ў верасні 1939 года было шмат. А я тады сядзеў дома. Мама купіла, што трэба, але прыбегла дадому перапалоханая і сказала мне сядзець дома і нікуды не выходзіць. Я баяўся, хоць і хацеў супраціўляцца”.

### *“Як паглядзеў, што такое Расія, то за галаву браўся”*

З прыходам новай улады ў Гродна мясцовых жыхароў сталі арыштоўваць і вывозіць. У асноўным гэта адбывалася ноччу.

“На саветаў мясцовы народ узлаваўся за гэта і не хацеў з імі нічога мець агульнага. А кожны яўрэй, які раней меў краму, пры саветах адразу стаў начальнікам. Хутка яны адмаўляліся ад крамаў. Казалі, што яны старыя марксісты, і дзесьці дакументы знаходзілі. Яўрэям больш верылі, чым падпольшчыкам беларускім і палякам.

Пры першых саветах спачатку былі чэргі ў крамах, але пасля ўсё наладзілася. Я працягваў хадзіць у сваю школу. Выкладаць нам пачалі на рускай і беларускай мовах. Усіх польскіх настаўнікаў ад выкладання адхілялі. Новыя настаўнікі нам распавядалі пра Расію і хвалілі яе. Але я як паглядзеў, што такое Расія, то за галаву браўся”.

### *1941. Неба, поўнае нямецкіх самалётаў*

Самым страшным годам у Гродне для Ежы Мар’янавіча быў 1941, калі тут чарговы раз чакалі немцаў.

“Адчувалі, што вайна з немцамі будзе, але баяліся пра гэта казаць. У дзень пачатку вайны я раніцай прачнуўся, а ўсе страляюць. Выхо-

---

[4] Сучасная плошча Савецкая.

дзіш на вуліцу, а там поўнае неба нямецкіх самалётаў. З прыходам новай улады з’явіліся і новыя законы. Не пашанцавала яўрэям, іх амаль адразу – у гета. Іх тут у Гродне было два.

Палякам і беларусам жылося лепш. Калі яны хацелі, то маглі працаваць. Мама мне казала, каб я толькі не лез у палітыку, і таму я не цікавіўся лёсам тых жа яўрэяў і іншых. Ведаю, што вывозілі яўрэяў з Гродна ў камендантскую гадзіну, калі людзей не было ў горадзе. Калі яўрэяў з Гродна вывезлі, можна было заходзіць у былое гета. Плаці 5 марак і бяры там што хочаш. Вядома, добрыя рэчы немцы не аддавалі гараджанам”.

### *Мужык забіў жонку, каб схаваць яўрэяў*

“Яшчэ да ліквідацыі гета ў Гродне быў выпадак, што адзін гродзенец схаваў яўрэяў, яны яму за гэта далі золата. Сказаў ён жонцы, што хавае яўрэяў, а тая вельмі баялася і прапаноўвала адправіць іх. Мужык са злосці ўзяў і жонку зарэзаў. Цела памерлай паклаў у пакет



*Ежы Кежкоўскі ў 2018 г.*

і пад мост. Суседзі выявілі, што няма доўга яго жонкі, і паведамілі ў жандармерыю. Мужык хутка прызнаўся і паказаў, дзе схаваў цела. Забойцу – у турму, а яўрэяў у гета забралі”.

### *У 13 гадоў зарабляў на сям’ю*

Пры немцах Ежы Мар’янавіч працаваў на мэблевай фабрыцы. Там ён дапамагаў рабіць мэблю, а таксама рамантаваць скрыні для снарадаў. Немцы плацілі 29 марак на месяц. Грошы хлапчук аддаваў маці, а яна ўжо купляла на іх прадукты.

“Яшчэ пры немцах мы перабраліся са Станіслававa ў Малышчына. Я працаваў у горадзе і зарабляў на жыццё нашай сям’і. Саветы вызвалілі Гродна ад немцаў у 1944 годзе. Спачатку адну частку, а недзе праз тыдзень – іншую. Было шмат параненых, нават мы ў сябе трымалі адных і кармілі іх супам”.

### *Амаль усе карэнныя гродзенцы з’ехалі*

Пасля вайны Ежы Мар’янавіч пайшоў вучыцца ў вячэрнюю школу, а ў 1948 годзе быў прызваны ў савецкую армію. Пасля службы ў войску гродзенец працаваў слесарам і токарам.

“Пасля вайны ў Гродне было шмат свабодных кватэр, але мы і іншыя мясцовыя імкнуліся іх не займаць, бо гэта была чужая ўласнасць. У любы момант туды мог вярнуцца гаспадар. Але амаль усе карэнныя гродзенцы з’ехалі хто куды, большая частка ў Польшчу. Зараз у Гродне жывуць іншыя людзі, якія прыехалі сюды з усходняй Беларусі і з Расіі. Пустыя кватэры гродзенскіх палякаў і яўрэяў у пасляваенным Гродне займалі гэтыя людзі. З сапраўдных гродзенцаў дадому амаль ніхто так і не вярнуўся”.

# У МУЗЕЙ У БАХІЛАХ
## (Ніна Сямёнава)

*Ніна Ёсіфаўна Сямёнава нарадзілася ў 1923 годзе ў Гродне. Праваслаўная. У гэтым горадзе яна пражыла ўсё жыццё ў сямейным доме на вуліцы Ватуціна. Вучылася ў прыватнай нямецкай школе і гімназіі імя Эміліі Плятэр. Памерла ў 2018 годзе.*

### *Дом, які пабудаваў дзед*

Першыя два класы Ніна Ёсіфаўна правучылася ў нямецкай прыватнай школе, якая знаходзілася на скрыжаванні сучасных вуліц Кірава і Гараднічанскай. Потым вучылася ў школе пры мужчынскай семінарыі Бернардынскага кляштара, а пасля шостага класа паступіла ў жаночую прыватную гімназію імя Эміліі Плятэр, у якой вучылася да 1939 года.

“Я ўсё жыццё пражыла ў сваім доме, тут жадаю і памерці. Яго ў 1913 годзе пабудаваў мой дзядуля Рыгор Францавіч Ганчарук (1867–1916) на тагачаснай вуліцы Пушкіна, пры паляках Жэромскага. Дзед быў старастай Сафійскага сабора. Будаваў ён дом для маёй маці, Балдоўскай Веры Іванаўны (1903–1995), якая прапрацавала ўсё жыццё бухгалтарам у гродзенскай інфекцыйнай больніцы.

Родны дом мая сям’я пакідала толькі аднойчы – падчас Першай сусветнай вайны, але пасля мы вярнуліся. Яшчэ ў польскі перыяд наш дом быў крайнім на вуліцы – далей было толькі поле. Вады ў нас доўгі час не было, то мы хадзілі па яе на іншыя вуліцы. А правялі нам ваду толькі ў 1930-х гадах, калі пачалася забудова дамоў польскіх афіцэраў”.



*Ніна Сямёнава з маці і айчымам шпацыруюць*
*па цэнтры Гродна, 1930-я гг.*

### *Сямейны ўчастак у Стрэльчыках*

Маці Ніны Ёсіфаўны разышлася з мужам рана, калі маленькай гродзенцы было ўсяго чатыры гады. Але без карміцеля сям’я не бедавала.

“Бацька сышоў і забраў усе зберажэнні. Але мы выжылі. У 1930-х гадах жылі за кошт таго, што здавалі ў арэнду наш участак зямлі з сядзібай у Стрэльчыках, цяпер гэта памежная тэрыторыя Польшчы і Беларусі. За грошы з арэнды мы жылі. І, варта адзначыць, няблага. Акрамя грошай арандатар нам пастаянна прывозіў прадукты. На жыццё не скардзіліся.

Я любіла даваенны Гродна, асабліва царкву Аляксандра Неўскага. Памятаю, часта туды заходзіла перад вучобай і захаплялася ўбранствам. Але мы жылі ў такі час, што ўвесь час нешта мянялася, розная ўлада і розныя законы”.

### *У музей – у бахілах*

Гродзенка распавядае, што з суседзямі яны жылі вельмі добра – быццам адна сям’я. Часта разам абедалі і нават ездзілі ў музей. Першы раз Ніна Ёсіфаўна трапіла ў Стары замак у пачатку 1930-х гадоў, калі суседзі запрасілі яе на экскурсію.

“Аднойчы, калі да суседзяў прыехаў сур’ёзны сваяк з Варшавы, мы на машыне паехалі ў замак. Гэта было ў пачатку 1930-х гадоў. Нас там сустракалі з аркестрам, як ганаровых гасцей. Каля замка паказалі рэшткі старой царквы, да якой трэба было спускацца па прыступках. Там нават нешта падобнае да алтара было, памятаю, і нейкія гліняныя канструкцыі з абгарэлым збожжам.

Былі мы і ў замку. Калі не памыляюся, пад музей там было адведзена некалькі пакояў, каб у іх зайсці, нам далі бахілы, бо там усюды быў прыгожы паркет. Што за экспанаты былі ў пакоях, мне цяжка ўспомніць. Але залу, прысвечаную Баторыю, я яшчэ неяк памятаю. Там стаяў ложак караля пад навесам”.

### *1939 – страшнае відовішча*

У верасні 1939 года гродзенцы тры дні біліся і не пускалі ў горад савецкую армію. Менавіта тады, пры абароне горада, за-



*Айчым Ніны Сямёнавай са сваім калегам едзе па вуліцы ў Гродне, 1930-я гг.*

гінулі многія гараджане. Ніна Ёсіфаўна, нягледзячы на тое, што была ў харцэрах (польскія скаўты), удзелу ў абароне Гродна не прымала.

“Тады загінулі многія маладыя хлопцы, якіх я ведала. Страшнае відовішча. Памятаю, што на скрыжаванні цяперашніх вуліц Ажэшкі і Сацыялістычнай разам з сяброўкай мы ўбачылі падбіты савецкі танк з мёртвымі танкістамі. Недалёка ад іх ляжаў мой знаёмы Уладзіслаў Пузаноўскі, які з намі вучыўся.

Нічога не зробіш, нам прыйшлося ўжывацца з новай уладай, хоць мы і прызвычаіліся да ўсяго польскага. Першы час было нязвыкла, бо ў крамах нічога не было, а калі было – то ўсё аднолькавае. А раней у нас заўсёды быў вялікі выбар прадуктаў і рэчаў”.



*Бакалы з яўрэйскай сімволікай, якія гродзенец Піка падарыў сваім выратавальнікам*

## *Не “здалі” і не палічылі кулакамі*

З новай уладай пачаліся рэпрэсіі, многіх жыхароў раёна Новы Свет выслалі за сувязь з польскім урадам або паставілі таўро “кулак”. Пад рэпрэсіі магла трапіць і сям’я Ніны Ёсіфаўны, але ім пашанцавала.

«Дзіўна, але нас кулакамі не прызналі, хоць мы і зямлю здавалі ў арэнду. Нас і нашага арандатара ніхто не “здаў”, і дзякуй Богу. Пасля прадстаўнікі новай улады пачалі прыходзіць да ўсіх дадому і вымяраць пабудовы. І калі норма перавышала, то дом дзялілі, а адной сям’і маглі пакінуць усяго толькі маленькую кладоўку. Але нам пашанцавала, дом пакінулі нашай сям’і, бо па нормах усё было добра. У той момант мы жылі ўтрох: я, мама і бабуля».



*Ніна Сямёнава ў 2018 г.*

### *Вайну з немцамі перажыла ва Ульянаўску*

Не паспелі гродзенцы звыкнуць да саветаў, як горад у 1941 годзе занялі немцы. У перыяд акупацыі Ніна Ёсіфаўна з'ехала ва Ульянаўск. Яе маці засталася ў Гродне і дапамагала многім гараджанам выжыць.

"Немцы хутка занялі Гродна, але ў гэты час я была эвакуявана ва Ульянаўск, на тое былі прычыны, пра якія не хачу казаць. У Гродна я вярнулася ў 1946 годзе. Горад не быў моцна разбураны. За выключэннем некалькіх будынкаў у цэнтры горада, моста і іншых пабудоў. Жыхароў засталося мала. Многіх маіх знаёмых і сяброў выслалі, хтосьці з'ехаў у Польшчу, а яўрэяў у горадзе наогул практычна не было – яны загінулі. Памятаю, да мамы прыйшоў адзін яўрэй, Піка, і падзякаваў за дапамогу ў час вайны. Ён сказаў, што збіраецца з'ехаць у Ізраіль, і ў знак сваёй падзякі падарыў маці сямейную рэліквію – келіхі. Нягледзячы на вайну і страты, горад працягваў жыць і развівацца".

# ХАДЗІЛА Ў ГЕТА ПАГУЛЯЦЬ
## (Раіса Шымбарэвіч)

*Раіса Ёсіфаўна Шымбарэвіч нарадзілася ў 1934 годзе ў Гродне. Праваслаўная. Усё жыццё жыве на вуліцы Рыбацкай каля Каложы. Яе бацька пры паляках, немцах і саветах плаваў на параходзе па Нёмане.*

Бацька і дзед Раісы Міхайлаўны – карэнныя гродзенцы, маці была родам з вёскі блізу горада. Калі пачалася Першая сусветная, сям'я Шымбарэвічаў з'ехала ў Расію, у Саранск, а вярнулася ў родныя мясціны ў пачатку 1920-х гадоў.

### *"Я – беларуска"*

"Сям'я мая была праваслаўная і ўсё жыццё мы пражылі ля Каложы. Пры паляках стары храм быў практычна зачынены і службы ладзілі там толькі на вялікія святы. Улады імкнуліся ўсяляк беларусаў акаталічыць. Вы думаеце, што тут шмат палякаў? Не, гэта беларусы каталіцкага веравызнання. Касцёл тады дапамагаў людзям. Я – беларуска. А так да 1939 года ў нас не пісалі нацыянальнасць. Пісалі: каталік, праваслаўны, юда ці мусульманін".

### *Бацька працаваў на Нёмане, а маці прыслужвала ў яўрэяў*

На беразе Нёмана ў сям'і Шымбарэвічаў быў свой дом з надзелам і гаспадаркай. За польскім часам гродзенцам жылося вельмі цяжка, але пры жаданні кожны мог палепшыць сваё становішча.

«Першы час пры паляках працы не было і давалі толькі 1 злоты па беспрацоўі. Памятаю, бацька распавядаў, што летам людзі падзараблялі "на камянях" – дзесьці брук рамантавалі».



*Бацькі Раісы Шымбарэвіч ідуць па цэнтры Гродна, 1930-я гг.*



*Міхаіл Шымбарэвіч, бацька Раісы, на левым беразе Нёмана (1930-я гг.). У тыя гады ў кожнага дома на Рыбацкай былі свае лодкі.*

З часам бацька Раісы Міхайлаўны знайшоў працу на Нёмане, а маці займалася хатняй гаспадаркай і часам хадзіла прыбіраць да яўрэяў.

“Бацька ў 1930-х працаваў матросам на параходзе, а пасля вайны быў капітанам. Зараз ужо не ўзгадаю, куды ў 1930-я хадзіў яго параход, але, здаецца, уверх па Нёмане да Лунна і назад да літоўскай мяжы. Бацьку падабалася працаваць на параходзе. А мама з васьмі гадоў працавала служанкай у яўрэяў і добра ведала іх мову. Актыўна працавала, пакуль замуж не выйшла. Агулам, у даваенным Гродне, калі чалавек не краў, то яму працавалася добра і ён мог сабе многае дазволіць”.

## *Аляксандраўскую царкву разабралі, а новай так і не пабудавалі*

У старым Гродне самымі багатымі былі яўрэі, якія часта казалі палякам: “вашы вуліцы – нашыя камяніцы, вашы легіёны – нашы мільёны”. Яўрэі ў даваенным Гродне трымалі практычна ўвесь гандаль.

Раіса Міхайлаўна памятае, як хадзіла з маці на невялікі кірмаш на плошчы Баторыя, памятае і яўрэйскую краму з тканінамі.

“Тады горад быў маленькі і чысты. Была ў нас у Гродне да вайны прыгожая праваслаўная Аляксандраўская царква[5]. Яе палякі разабралі і груды камянёў павезлі ў кірунку Сабачай горкі[6] для далейшага будаўніцтва. Абяцалі пабудаваць зноў, але ў час вайны ўвесь гэты матэрыял бясследна знік”.

### *Высяленне з Рыбацкай*

Раіса Міхайлаўна ўспамінае, што большасць гродзенцаў з прыхільнасцю сустракалі савецкую ўладу ў верасні 1939 года. Яна адзначае, што толькі заўзятыя палякі не любілі рускіх.

“Так, былі людзі незадаволеныя, бо ў іх забіралі бізнес, а беднякам у Гродне было добра. Галоднымі ніхто не сядзеў. Так пражылі да прыходу немцаў”.

Нямецкую акупацыю Гродна жанчына памятае лепш за ўсё са свайго дзяцінства. У той час сям’і Шымбарэвічаў прыйшлося памяняць дом на Рыбацкай на кватэру на Базыліянскай[7]. Немцы высялялі ўсіх людзей, якія жылі паблізу берагоў Нёмана.

“Вайна ў чэрвені 1941 года пачалася вельмі рана. Мы пачулі гул самалётаў, і першы снарад упаў у раёне Нёмана. Нашы войскі хутка адступілі. Ніхто не быў гатовы да вайны, нават страляць не было чым. Мірныя жыхары хаваліся ў падвалах. Ужо ў 1942 годзе нас выселілі з дому. Немцы выдалі ўказ, што над Нёманам нельга жыць людзям, і пры гэтым знішчылі ўсе лодкі жыхароў. Баяліся, што людзі будуць перавозіць партызан”.

На другі год нямецкай акупацыі сям’я Шымбарэвічаў адправілася на вуліцы горада ў пошуку новага жылля. У той час у горадзе было шмат пустых яўрэйскіх пабудоў.

“Дзе хочаш, там і засяляйся. Мы пайшлі на Базыліянскую і жылі ў адным яўрэйскім доме да 1944 года. Мама прапаноўвала бацьку заставацца там і далей, але тата баяўся, што вернуцца жыхары. Ніхто тады ў Гродне не ведаў, што яўрэяў спаляць”.

---

[5] На сённяшняй плошчы Тызенгаўза, насупраць Вечнага агню.

[6] Пазней – месца расстрэлу і пахавання абаронцаў Гродна ў 1939 годзе. Сёння там мост і дарога па вуліцы Магістральнай.

[7] Сучасная вуліца Лермантава.

## *Хадзіла ў гета пагуляць*

Гродзенка да сёння добра памятае гета на Замкавай і як там утрымлівалі мясцовых яўрэяў.

“У яўрэяў збіралі золата і іншыя каштоўныя металы, карціны. Спачатку паціхеньку… Я бачыла наша гета і была там дзіцём. Нічога страшнага там не было, памятаю, што яно было вялікае”.

У гета ў цэнтры Гродна было шмат дамоў, і ў кожным жыло па 5–10 яўрэйскіх сем’яў. Адной сям’і давалі адзін пакой. Мужчын з гета накіроўвалі на працу ў горад, а жанчыны і дзеці ўвесь час праводзілі на вуліцы або ў дамах. Немцы не дазвалялі яўрэям проста так выходзіць з гета.

«Я памятаю адзін выпадак з гета. У маці была карова, і яна хадзіла туды па бульбяныя ачысткі, і я іншы раз з ёй. Немцы далі на гэта дазвол. Адзін раз у гета паехаў нейкі мужык, і я села да яго ў фурманку. Немец прапусціў, бо думаў, што мы ўдвох. Мужык у гета паехаў па сваіх справах, а я знайшла яўрэйскую сям’ю Бярковічаў – у іх маці працавала да вайны. Памятаю, хлопчыкаў клікалі Ічы і Лёфка, іх маці звалі Марыя, а бабулю Ханна. У той дзень з Лёфкам мы цэлы дзень гулялі ў гета.

Горад я ўжо тады ведала. Замест таго, каб выйсці з гета праз Замкавую, пайшла на Віленскую. Іду ў беленькай сукенцы, як ні ў чым не бывала, падыходжу да прахадной. Паліцай да мяне: “Ты куды ідзеш?”. Я ў адказ – дадому іду. Сказала, што жыву на Базыліянскай і прыйшла ў гета з мамай. Заблукала. Падышоў немец, яму пераклалі. Ён дастаў шакаладку, пляснуў па задніцы і адправіў за браму. Паліцай потым падышоў да мяне і сказаў, што калі яшчэ хоць раз пабачыць у гета, то не выпусціць – пайду разам з жыдамі».

## *Яўрэі прапаноўвалі рэчы – мама не брала*

Вядома, што немцы ў гета забіралі ў яўрэяў іх дарагія рэчы. Але многае засталося ў кватэрах, дзе яны раней жылі. Раіса Міхайлаўна ўспамінае, што яшчэ перад вайной сям’я Бярковічаў, у якіх працавала яе маці, раздавала свае рэчы, ведаючы, што ў іх могуць забраць усё.

“Бабуля Ханна, у якой маці працавала, хацела пакінуць нам многія рэчы, але гэта не адбылося – мама з’ехала і не жадала нічога чужога. І ўжо калі ў гета маці прыехала па ачысткі і сустрэлася з Бярковічамі,

яны яе лаялі і называлі дурной. Усе рэчы гэтай сям'і прапалі, калі яўрэяў дэпартавалі ў гета. А Бярковічы да вайны жылі паблізу піўзавода і былі багатыя. Што з імі стала пасля гета – ніхто не ведае. Шкада было яўрэяў. Яны складалі большую частку насельніцтва даваеннага Гродна, а пасля вайны можа 10 чалавек, якім удалося схавацца, засталіся ў жывых у горадзе".

### *"Не так немцы бушавалі ў Гродне, як нашы мясцовыя перакруты"*

Бацька Раісы Міхайлаўны пры немцах працягваў працаваць на параходзе. Для яго работа падчас акупацыі была вельмі страшнай. Ён знаходзіўся паміж двух агнёў: немцы не дазвалялі перавозіць партызан, а тыя ўвесь час прыходзілі з лясоў.

«Паціху бацька перавозіў. Ніхто не хацеў пад немцамі жыць, яны нас называлі "русіш швайн". Былі ў нас і памагатыя новай улады. Не так немцы бушавалі ў Гродне, як нашы мясцовыя пярэкруты».



*Раіса Шымбарэвіч у 2018 г.*

Гродзенка ўспамінае, што горад у час вайны дужа не пацярпеў, толькі цэнтр. Моцныя баі былі за вызваленне горада ў 1944 годзе.

“Было страшна, калі стралялі з двух берагоў Нёмана. У вайне наша сям’я страціла дзядзьку, якога забіў нямецкі снайпер з другога боку Нёмана. Ён пайшоў па ваду ў калодзеж. А так у час вайны ў нас у хляве збіраліся мясцовыя жыхары, і быў у нас там прыёмнік невялікі. Дарослыя, калі збіраліся, то дзяцей выганялі, бо баяліся, што яны могуць нешта расказаць. А за шакалад дзеці тады маглі расказаць немцам многае”.

### *Прыезджыя занялі кватэры гродзенцаў*

Пасля вайны ў Гродна сталі прыязджаць людзі з вёсак, суседніх гарадоў і Расіі. Па ўспамінах Раісы Міхайлаўны, карэнных гродзенцаў заставалася вельмі мала.

“Тата казаў маме, што калі Гродзенская вобласць адышла б у Польшчу, каб яна брала дзяцей і ехала ў Расію. Мы засталіся ў СССР. У палякаў мы былі хамамі і быдлам. Пасля вайны заўзятыя каталікі з’ехалі хутка ў Польшчу, а на іх месцы людзі прыязджалі з розных куткоў і займалі пустыя кватэры. Першы перапіс жылога фонду быў у 1946 годзе. І калі людзі паспелі заняць кватэры, то за імі іх і запісвалі”.

# «ДЗЯКУЙ, ШТО ЗАХАВАЛІ ГОРАД»
## (Зыгмунт Левандовіч)

*Зыгмунт Генрыхавіч Левандовіч нарадзіўся ў 1929 годзе ў Гродне. Каталік. Вучыўся ў "батаруўцы". Яго сям'я мела краму "S. Lewandowicz" каля Фарнага касцёла ў цэнтры Гродна. У 1939 годзе краму нацыяналізавалі саветы, а сям'ю спрабавалі выслаць. Левандовічаў выратавалі ад высылкі немцы. Пасля вайны амаль усе Левандовічы з'ехалі ў Польшчу. Зыгмунт жыве ў Эльблонге, але кожны год прыязджае ў Гродна.*

"Сёння ў Гродне сваякоў у нас няма, а ўсе, хто тут жыў, ужо даўно памерлі і пахаваныя на Фарных могілках. Ад калісьці вялікай сям'і Левандовічаў з гэтага выдатнага месца цяпер у жывых засталося толькі тры чалавекі: я, сястра Крысціна і стрыечны брат Збігнеў. Усе мы жывем у Польшчы, але ў розных гарадах. Асабіста я разам са сваёй сям'ёй стараюся прыязджаць у Гродна кожны год. Для мяне гэта Радзіма, дом і зямля продкаў".

### *Крама ля Фары – сямейная справа Левандовічаў*

Дзядуля Зыгмунта – Станіслаў Левандовіч – яшчэ ў царскія гады займеў каштоўнае месца ў горадзе ля Фарнага касцёла і адкрыў там краму. Гэтую крамку з шыльдай "С. Левандович / S. Lewandowicz" можна ўбачыць на паштоўках XX стагоддзя. Магчыма, гэта месца Станіславу далі за заслугі перад айчынай у 1905 годзе, калі ён мужна змагаўся ў руска-японскай вайне і быў узнагароджаны ганаровымі ордэнамі. І бацька Зыгмунта быў вайсковым ветэранам: ён змагаўся ў савецка-польскай вайне ў 1920 годзе і таксама быў узнагароджаны ордэнамі.

"Мой бацька працаваў у краме дзеда. Там можна было купіць шмат чаго: кнігі, як звычайныя, так і рэлігійныя, пісьмовыя прына-

лежнасці, паштоўкі, якія там жа і выдавалі, і многае іншае. Я ў той час вучыўся ў школе на Ажэшкі, але пасля перайшоў у іншую – на вуліцы Мяшчанскай. Гэтай вуліцы ўжо цяпер няма. Дарэчы, там мы і жылі да 1941 года”.

### *Прыход саветаў*

Зыгмунт распавядае, што ў верасні 1939 года ніхто саветаў у Гродне з кветкамі не сустракаў. Біліся гродзенцы заўзята, асабліва харцэры – падлеткі змагаліся за кожную вуліцу і не прапускалі варожыя танкі. Перад тым, як камуністы ўвайшлі ў горад, былі дыверсіі, падрыхтаваныя яўрэямі, але іх хутка ўціхамірылі.

Гродзенец памятае і гісторыю з Тадзікам Ясінскім – падлеткам, якога саветы схапілі і прывязалі да танка, і які памёр у маці на руках.

“Гэта ўсё было насамрэч, Тадзіка з танка адвязала жанчына-медык. Але ён не выжыў і памёр у шпіталі. Я памятаю яшчэ адзін выпадак, які многіх уразіў. Мясцовыя санітары выратавалі савецкага




*Злева, каля Фарнага касцёла, крама сям’і Левандовічаў, пач. XX ст.*

танкіста, якога падбілі харцэры на вуглу Дамініканскай[8] і Ажэшкі. Яны яго забралі ў шпіталь і дапамаглі выжыць. Шмат хто казаў: навошта ратаваць рускага салдата, яго трэба забіваць. А жанчыны казалі, што гэта перадусім паранены чалавек, якому трэба дапамагчы".

## *Прысуд усёй сям'і*

З прыходам саветаў у сям'і Левандовічаў усё памянялася. Дзед Зыгмунта трапіў у турму як буржуй, з ім маці і бацька, бо ўваходзілі ў таемную польскую арганізацыю ZWZ (Саюз збройнай барацьбы, які пазней трансфармаваўся ў Армію Краёву). У выніку бацьку вынеслі прысуд – смяротнае пакаранне, маці і дзеду далі па 10 гадоў лагераў.

"Мяне, бабулю і трох сясцёр спачатку не чапалі, але перад самай вайной з немцамі пасадзілі ў вагоны для жывёл і адправілі ў Сібір. Адправілі нас недзе 20 чэрвеня 1941 года, а вайна пачалася 22 чэрвеня. Тады саветы ў спешцы пакідалі Гродна. У час бамбавання горада снарады ўпалі на турму. Дзякуючы гэтаму частцы зняволеных удалося ўцячы. Так мой бацька і маці, якія чакалі выканання прысуду, паспелі вызваліцца. Пабеглі яны адразу на Мяшчанскую, а вуліца ўжо была цалкам разбураная. Мы ж з бабуляй і сёстрамі ў той момант у вагонах ехалі ў Сібір".

## *Дзіўна, але выратавала Сібір*

Зыгмунт кажа, што калі б саветы не адправілі яго з бабуляй і трыма сёстрамі ў Сібір, то яны б загінулі ад нямецкіх бомбаў. Па ўспамінах гродзенца, усе дамы на Мяшчанскай пацярпелі ад нямецкага бамбавання. З суседзяў Зыгмунта ніхто не выжыў, дамы былі разбураныя.

"Усе загінулі, бо бамбілі горад глыбокай раніцай. Дзіўна: нас, атрымліваецца, выратавалі саветы. На цягніку мы далёка з'ехаць не паспелі. Вайна нас заспела каля Стоўбцаў. Там упалі бомбы і цягнік не мог ехаць далей. Немцы нас не чапалі, а наадварот, вельмі добра паставіліся. Яны паставілі палявы шпіталь, там лячылі параненых пры абстрэле. Усім, хто быў у цягніку на Сібір, немцы далі транспарт назад у Гродна. Праз некалькі дзён пасля пачатку вайны мы вярнуліся

[8] Сёння – вуліца Савецкая.




*Зыгмунт Левандовіч з маці ў цэнтры Гродна, 1930 г.*

ў родны горад, нас сустракалі бацькі і дзядуля, якія выжылі. Акрамя бацькоў нас сустракалі і немцы, якія здымалі прыезд на камеру. Мэтай у іх было паказаць, як саветы высылалі мірнае польскае насельніцтва ў Сібір".

### *Новы дом і дапамога яўрэям*

Дом Левандовічаў згарэў у час бамбавання, і ім прыйшлося шукаць новае жытло. Сям'я перабралася на вуліцу Брыгіцкую[9], 5.

"Саветы краму ў дзеда забралі, а немцы, як прыйшлі, то вярнулі і дазволілі зноў гандляваць. Дзед падчас нямецкай акупацыі вельмі шмат дапамагаў яўрэям у гета: перадаваў ежу, хаваў уцекачоў. Рэч у тым, што з многімі мы мелі да вайны бізнес.

Памятаю, як мы выратавалі адну яўрэйскую дзяўчынку. Была ў гродзенскім гета сям'я Юхневічаў, калі не памыляюся, і ў той момант, калі пачалася ліквідацыя, усю калону ўначы вялі на чыгуначную станцыю ў Ласосна. Яўрэі праходзілі па вуліцы Брыгіцкай і маці (Юхневіч)

[9] Цяперашняя вуліца Карла Маркса.

сказала сваёй дачцэ бегчы да нас у дом. Так і атрымалася. Дзяўчынку я выявіў раніцай, яна была на гарышчы і ўвесь час плакала. Дзед мне сказаў маўчаць і нічога нікому не казаць. Праз некалькі дзён я з гэтай дзяўчынкай і дзедам за рукі пайшлі па горадзе ў кірунку Ласосна, каб перадаць малую патрэбным людзям. У выніку дзяўчынку пасадзілі на цягнік, які ехаў да Варшавы. Там яе чакаў бацька. А маці, хутчэй за ўсё, загінула ў лагеры смерці".

### *Усе з'ехалі, а старыя Левандовічы засталіся*

Агулам пры немцах сям'і Левандовічаў жылося спакойна. Але цягнулася гэта нядоўга – да другога прыходу саветаў. Камуністы прыйшлі і зноў узяліся за старое.

"Яны ведалі пра нашыя прысуды ў 1939 годзе, але бацькі своечасова запісаліся на ад'езд у Польшчу і нечакана ўлады далі дабро. Мы спакойна змаглі з'ехаць. Адбылося гэта ў 1945 годзе. Старыя ж не хацелі з'язджаць і казалі, што Гродна – іх дом, і тут іх карані. Казалі, што менавіта ў гэтым месцы яны хочуць памерці. Яны засталіся.

У выніку дзядулю ў 1946 далі 10 гадоў і адправілі ў Краснаярск, а бабулю не кранулі і яна засталася ў Гродне. Дзед, калісьці ўладальнік вядомай у Гродне крамы, адбыў увесь тэрмін. Трохі пажыў у Гродне і памёр у 1956 годзе. Бабуля перажыла яго на два гады. Мы прыязджалі на іх пахаванне і хавалі іх на Фарных могілках. Як бы нам ні хацелася, але ў Гродне заставацца мы не маглі і вярнуліся ў Польшчу".

### *Гродна для Левандовічаў – другі дом*

Пасля вайны Левандовічы планавалі, што паедуць у польскі горад Торунь. Гэта месца параіў ім дзядуля, бо меў там аднаго знаёмага, з якім вёў бізнес. Але нечакана цягнік павярнулі ў іншае месца і Левандовічы апынуліся ў горадзе Валч. Там Зыгмунт зноў пайшоў вучыцца. Пасля сям'я перабралася ў Эльблонг, дзе і цяпер жывуць Левандовічы.

«Хоць мы і жывем сёння ў Польшчы, але Гродна для нашай сям'і – гэта другі дом. Я прыязджаю ў гэты горад і бачу вуліцы, дамы, месцы майго дзяцінства. Але ў гэтых месцах няма маіх знаёмых і сяброў. Я не чую польскай мовы, крыху дзіўна і крыўдна. Іншы раз успаміны даюцца цяжка.



*Зыгмунт Левандовіч у 2017 г.*

Я разумею, што Гродна цяпер у новай дзяржаве, але, нягледзячы на гэта, наша гісторыя і старая архітэктура тут засталіся. Я вельмі ўдзячны сучасным гродзенцам, што захавалі горад. Гродна – гэта пярліна. Што б там ні казалі, але да вайны ў горадзе ўсе стараліся жыць мірна. Палякі, яўрэі, праваслаўныя, пратэстанты і мусульмане – усе дапамагалі адзін аднаму і жылі па-суседску.

Аднойчы я прыехаў у Гродна і пайшоў у школу “батаруўку”, у якой мне адзін час давялося вучыцца. Я зайшоў, і дырэктарка мне правяла экскурсію, завяла ў адзін з кабінетаў, дзе я вучыўся. Там акурат былі дзеці, і дырэктарка сказала пры ўсіх: “Гэты мужчына калісьці вучыўся ў гэтай школе і сядзеў у гэтым кабінеце”. Было вельмі прыемна ўсё ўспомніць, а таксама расказаць дзецям, як мы, гродзенцы, да вайны вучыліся і як бавіліся на перапынках…».

# ГРОДЗЕНСКАЕ ЖЫЦЦЁ ПРЫ ТРОХ УЛАДАХ
## (Ірэна Кізюкевіч)

*Ірэна Стэфанаўна Кізюкевіч нарадзілася ў вёсцы Пярэселка ў 1925 годзе. Каталічка. Вучылася ў школе № 8 на Лермантава. Падчас вайны працавала на швейнай фабрыцы, пасля была вывезена ў Германію на працы.*

У сям'і Кізюкевіч у Пярэселцы быў свой кавалак зямлі: дом і розныя будынкі для жывёлы. У міжваенны час сям'я складалася з бацькоў-сялян і двух дзяцей – сына і дачкі.

"Я па дзяцінстве дапамагала сям'і па гаспадарцы: прыбірала, карміла жывёлу і многае іншае. У 1930-я гады наша вёска была вялікая і складалася з 60 дамоў, але самае дзіўнае было тое, што гміна ў нас была ў Гожы, а потым пры першых саветах яе перанеслі ў Грандзічы. А пры немцах мы адносіліся ўжо да Гродна. Самае распаўсюджанае прозвішча ў нас у вёсцы было менавіта Кізюкевіч. Былі выпадкі, што людзі супадалі цалкам: па прозвішчы, імю і імю па бацьку. Таму часта ў вёсцы былі блытаніны, а іншы раз і смешна было".

### *"Іду па Чкалава нібы па могілках"*

"У шэсць гадоў у школу мяне не ўзялі, бо я нарадзілася ў кастрычніку, а навучальныя ўстановы тады былі вельмі загружаныя. У выніку пайшла вучыцца ў сем гадоў і вучылася ў новай школе, якая складалася з аднаго будынка ўздоўж сучаснай вуліцы Чкалава. Прыбудавалі іншыя будынкі да школы, калі я была ў шостым класе. Менавіта пасля гэтага класа, хто хацеў пступаць у гімназію, мог сыходзіць.

У школе мне вельмі падабалася вучыцца, бо ў нас былі свае традыцыі. Але ўжо пасля шостага класа я хацела пайсці ў гімназію



*Ірэна Кізюкевіч з іншымі вучнямі каля школы № 8. На пярэднім плане дырэктар Юзаф Вевюрскі. 1930-я гг.*

Міцкевіча, бо мой брат там вучыўся, але бацька сказаў, што яму будзе цяжка выцягваць нас дваіх. У выніку я не забірала дакументы, а праз час, калі я прынесла атэстат са школы, тата сказаў, што ўжо шкадуе, што не адправіў мяне ў гімназію".

Дзякуючы добрай памяці гродзенка памятае амаль кожнага свайго настаўніка, якія жылі каля школы у практычна аднолькавых драўляных дамах на вуліцы Жвіркі[10].

"Іншы раз іду па вуліцы Чкалава, дзе жылі настаўнікі ў 1930-х, то мне здаецца, што іду па могілках. Ужо нікога няма з іх. Напрыклад, Юзаф Вевюрскі, які быў дырэктарам школы і ў старэйшых класаў вёў польскую мову і гісторыю. Я добра ведала яго дзяцей. Старэйшы сын Стэнек вучыўся з маім братам, другі сын Юзік – мой аднагодак, трэцяя была дзяўчынка – Яся, і вучылася з маёй сястрой. А потым у Вевюрскіх нарадзіліся Збысё і Марыська. Спачатку іх сям'я жыла пры школе, а потым пераехалі. Падчас нямецкай акупацыі Вевюрскіх расстралялі.

[10] Сучасная вуліца Чкалава.

У 5–6 класах заняткі праводзіў Стэфан Пекарэк, які з’яўляўся магістрам філасофіі. Ён выкладаў геаграфію, гісторыю і польскую мову. Проста золата, а не настаўнік. Так хораша ўсё распавядаў, што было зразумела кожнаму. Ён загінуў пры першых саветах, калі абараняў Гродна.

Была ў нас настаўніца Марта Вельмосурна – выкладала яна ў малодшых класаў. Вучыла дзяцей прыродазнаўству, геаграфіі і вяла харцэрскі гурток. Падчас вайны яе расстралялі немцы”.

## *Пагромы і страйкі працоўных*

«У 1935 годзе, якраз адразу пасля смерці Пілсудскага, у мяне была першая камунія[11]. У касцёле пасля яе да нас выйшаў дырэктар школы Вевюрскі і сказаў: “Дзеці, калі нешта будзе ляжаць на зямлі ў горадзе – не чапайце. Калі хтосьці што-небудзь будзе даваць – не бярыце”. Казалі, што ў гэтых рэчах маглі быць бомбы. Гэта было адразу пасля яўрэйскіх пагромаў. Як грамілі, я не бачыла, але словы Вевюрскага тады памятаю добра.

У тым жа годзе былі ў Гродне і працоўныя забастоўкі, якія называліся страйкамі. Ідзём іншы раз мы з маці па горадзе пасля касцёла, а каля натоўпу працоўных дзве тыпу труны стаяць і напісана “Слава невядомаму рабочаму”. Я тады ў мамы спытала, што за работнік загінуў. А яна мне распавяла, што такім чынам рабочыя да забастоўкі прыцягваюць увагу».

## *У 1939 чакалі вучэбную трывогу, а пачалася рэальная вайна*

Чуткі пра вайну з немцамі ў польскім Гродне хадзілі напярэдадні верасня 1939 года. Ірэна Стэфанаўна распавядае, што людзі пра гэта адкрыта казалі на вуліцы.

“За некалькі дзён да 1 верасня па горадзе хадзілі адмысловыя людзі, якія правяралі падвалы на гатоўнасць у выпадку вайны. Важна было, каб падвалы былі чыстыя і там былі бінты, лекі і харчы. Раніцай 1 верасня казалі, што будзе вучэбная трывога, і я акурат у гэты час была ў канцы вёскі. Але ніякай пробнай трывогі не аказалася,

[11] Прычасце ў касцёле.



*Ірэна Кізюкевіч з іншымі вучнямі (харцэрамі) маршыруе па вуліцы Дамініканскай (суч. Савецкая), 1930-я гг.*

адразу завылі сірэны і наляцелі нямецкія самалёты. Бомбы траплялі на Фарны касцёл, турму і іншыя месцы. Як падалі снарады, я добра бачыла, бо нам было відаць з вёскі. Лёталі самалёты так дзесьці да сярэдзіны верасня".

## *"Ідзём абараняць Айчыну"*

Тое, што ў Гродна прыйшла савецкая ўлада, для сям'і Кізюкевіч, як і для іншых гродзенцаў, стала вялікай нечаканасцю.

"17 верасня бальшавікоў мы не сустракалі і не ведалі, што яны да нас прыйдуць. Але як прыйшлі, у горадзе арганізавалася ўласная абарона. Салдатаў было мала, бо амаль усе сышлі на заходні фронт біцца супраць немцаў".

Ірэна Стэфанаўна распавядае, што горад выйшлі абараняць у асноўным мясцовыя жыхары і харцэры.

«Нашы вясковыя 17-гадовыя хлопцы таксама пайшлі абараняць Гродна. І мой брат Томаш быў у іх ліку. Тры дні стралялі ў горадзе, але ад нас гэта было далёка. Потым стральба сціхла. Людзі сталі выходзіць на вуліцу, і наша сям'я таксама выйшла.

У той момант якраз праз нашу вёску невялікімі групамі праходзіла польскае войска. Апранутыя былі як ваенныя і мелі зброю. Некаторыя неслі з сабой мяшкі тытуню. Мы глядзім на салдат і бачым там Томаша нашага, які ішоў са сваім сябрам. Людзі ім пачалі крычаць: "Куды вы ідзяце і каму вы нас пакідаеце?". Брат памахаў рукой і крыкнуў: "Ідзём абараняць Айчыну".

Як аказалася, салдаты ішлі на Вільню. Тата ў выніку дагнаў майго Томаша і сказаў яму: "Ідзі дадому, дзіця! Што ты сабе думаеш?". Брат не перадумаў і пайшоў разам з войскам.

Тры тыдні не было юнака дома. Але пасля ён вярнуўся ў вёску і сказаў, што афіцэры і старэйшыя салдаты засталіся ў Літве, а маладых харцэраў адпусцілі дадому. Пасля таго, як Томаш вярнуўся ў Гродна, ён далей пайшоў вучыцца ў гімназію. І ніхто яго бальшавікам не выдаў».

### *Першыя саветы – новыя парадкі*

Новая ўлада адразу ж пачала наводзіць свае парадкі ў Гродне і высылаць інтэлігенцыю, сем'і афіцэраў і іншых. Вывазілі людзей уначы.

«Сем'і двух маіх аднакласніц вывезлі. Спачатку арыштоўвалі мужчын, а пасля прыходзілі і па жанчын з дзецьмі. Былі такія жыды, людзі, якія выдавалі палякаў. Дырэктара Вевюрскага не чапалі, і першыя паўгода пры бальшавіках ён яшчэ кіраваў школай і жыў побач. Але пасля яго знялі з пасады і разам з сям'ёй ён пераехаў на Чкалава.

Яўрэі радаваліся прыходу саветаў і казалі палякам: "Цяпер наша ўлада, а не твая". Не ведаю, чаму яны радаваліся, але ўсе іх крамы амаль пазачынялі».

З прыходам новай улады першы час у горадзе не было прадуктаў, але паступова сталі адчыняць крамы, пачалі працаваць заводы. А таксама сталі адчыняцца школы.

«Саветы ўсё абяцалі гараджанам новыя прадукты. Казалі так: "Ідуць тры вагоны ўсяго: соль, керасін і запалкі". У іх пыталіся пра апельсіны, дык яны казалі, што ў СССР яны ёсць і завод у тры змены іх вырабляе. Праз некаторы час улада стала адкрываць кааператыў-

ныя крамы, ды і гандляры сталі распрадаваць свае тавары. Можна было і туфлі купіць, і іншыя рэчы.

З новай уладай у 1939 годзе я пайшла зноў у сваю школу. Саветы ўсім далі ўказанне, каб з 1 кастрычніка дзеці ішлі ў свае школы. Першыя паўгода вучыліся яшчэ на польскай мове. Памятаю, прыходзіш у школу, аднаго няма настаўніка, пасля іншага – і так з усімі. Каго не паспелі вывезці саветы з нашых настаўнікаў, расстралялі немцы».

У кастрычніку 1939 года ва "ўсэмцы" з'явіўся першы беларускі настаўнік, які ўжо вучыў школьнікаў рускай мове.

"Кніг не было, то ён возьме газету, парэжа яе на кавалачкі і раздасць нам. Так мы знаёміліся з новай для нас мовай. На новы год саветы зрабілі нам сюрпрыз. Выйшла пастанова, што ўсе, хто пайшоў у сёмы клас, павінны вярнуцца ў пяты. Менавіта так адбылося, і нам, старэйшым вучням, было вельмі крыўдна. Напрыклад, у новым класе быў хлапчук на тры гады маладзейшы за мяне, і мне даводзілася з ім вучыцца".

### *Усіх вывезці саветы не паспелі*

Як у 1939 годзе, так і ў 1941 у гродзенцаў была інфармацыя пра магчымы напад немцаў. Але ў адкрытую ніхто пра гэта не казаў. Ніна Стэфанаўна памятае, што за некалькі дзён да вайны саветы пачалі вывозіць цэлыя эшалоны людзей на ўсход.

"Вельмі шмат людзей забіралі і пакавалі ў вагоны-цялятнікі. Многіх маладых хлопцаў садзілі ў турму. Але ўсіх саветы не паспелі вывезці, бо наляцела нямецкая авіяцыя раніцай 22 чэрвеня і разбамбіла чыгунку недзе пад Оршай і Баранавічамі. Хтосьці загінуў, а хтосьці вярнуўся дадому. Але для людзей было галоўнае, што іх не здолелі вывезці ў лагеры".

### *Падчас авіяналёту людзі хаваліся ў падвалах*

Для сям'і Кізюкевіч чарговая вайна з немцамі пачалася пасля таго, як нехта пачаў моцна грукаць у дзверы.

"Мы думалі, што гэта прыйшлі саветы па нашага Томаша. Але гэта такім спосабам нас будзіў сабака, які баяўся грукату, які набліжаўся. Мы адкрылі дзверы і побач з домам упаў снарад, потым іншы. Глядзіш у акно – і бачыш шмат самалётаў, якія ляцяць на Гродна".

Калі бамбёжка трохі сціхла, Ірэна разам з братам хутка сабралася і пайшла да бабулі, якая таксама жыла ў вёсцы. У яе яны ўбачылі шмат людзей, якія прыйшлі з горада і хаваліся ў яе ў падвале.

“Разам з імі мы там трохі перабылі, а пасля перабраліся ў іншы падвал, нашага дзядзькі. Праз некаторы час мы з сям’ёй вярнуліся дадому, а ён ужо быў поўны жанчын, якія ўцяклі з турмы. Магчыма, гэта былі жонкі польскіх афіцэраў. Тата ім даў бульбы, якую яны зварылі, а пасля з’елі з малаком”.

### *Першы час выратоўваў солтыс*

Пакуль нямецкія войскі не ўвайшлі ў Гродна, насельніцтва рабавала крамы і выносіла ўсё запар. Адным з першых загадаў немцаў было – расстрэльваць тых, хто рабуе.

“Салдаты ў вёску практычна не прыходзілі, толькі ў тых выпадках, калі людзі не выходзілі на працу і не з’яўляліся па позве. Але ў асноўным гэта былі мясцовыя паліцаі. Першы час пад нямецкай акупацыяй я працавала ў бацькі на гаспадарцы, у зімовы час – вязала і дапамагала па хаце. Пасля немцы пачалі дасылаць моладзі позвы для выезду ў Германію. Але быў у нас солтыс[12] добры, які нас заўсёды адмазваў. Збярэ прадуктаў з вёскі і занясе ў камендатуру, і нейкі час пасля гэтага позвы не прыходзілі”.

### *Яўрэі і праца на швейнай фабрыцы*

У адзін дзень нямецкае камандаванне ў Гродне дало ўказанне солтысам адпраўляць усю моладзь на працу. Ірэну адправілі на швейную фабрыку, якая месцілася недалёка ад аўтавакзала на сучасным праспекце Касманаўтаў.

«Мая фабрыка знаходзілася на тэрыторыі былога гета № 2 у вялікім чатырохпавярховіку. Мы, маладыя дзяўчаты (я, Марыська і Броня Карольчына), працавалі першы час на яўрэйскіх машынках і шылі рабочую вопратку шэрага колеру, а вось для каго, мы не ведалі. З часам на фабрыцы ўсталявалі машынкі з маторчыкамі і стала лягчэй працаваць.

---

[12] Аналаг старшыні сельсавету.



*Ірэна Кізюкевіч, 1943 г.*

Праз некаторы час да нас на фабрыку прыгналі яшчэ людзей, якіх рассялілі на тэрыторыі былога гета. Хтосьці кроіў, хтосьці гладзіў і г. д. Заробак у немцаў мы патрабаваць не маглі, яны як хацелі, так і плацілі. Перавага працы была ў тым, што немцы давалі дадатковыя карткі на прадукты.

Яўрэяў у горадзе ўжо тады не было, а калі яшчэ былі, то ў гета яны рабілі спецыяльныя пропускі і выходзілі. Немцы ім дазвалялі. Прыходзілі да нас у вёску і прыносілі розныя тавары на абмен. Прынеслі неяк мне паліто, а яно мне не спадабалася, і я сказала, што не буду браць. А яўрэй пытаецца: “А якое хацела б?”. Я патлумачыла, і мне на наступны дзень прынеслі такое, як я казала. За дзень яны яго пашылі. Далі ім за гэта прадуктаў розных.

Шмат такіх яўрэяў прыходзіла. І шкада іх было. Прыходзіў неяк да нас і яўрэйскі паліцай з гета, ён казаў так: “Што зробіш, і вяселлі робім, і хрэсьбіны. Ну што, канец жыцця ці што? Жывём як можам”. У вёсцы ў нас ніхто не браў хаваць у сябе яўрэяў, але дапамагалі. Пасля высялення яўрэяў тэрыторыю гета расчышчалі самі гараджане, памятаю, штрафнікоў туды пасылалі».

## *Праца ў Германіі ва ўладальніка завода Opel*

На швейнай фабрыцы ў Гродне Ірэна Стэфанаўна прапрацавала каля года. Потым ёй прыйшла чарговая позва – на працу ў Германію.

“У 1942 годзе брата вывезлі ў Кёнінгсберг. Ён пісаў, каб я не ехала ні ў якім выпадку ў Нямеччыну, калі будуць прапаноўваць. Па позве я не пайшла ў камендатуру, але ў адзін дзень перад Вялікаднем па мяне прыйшлі. Пагражалі, што калі я не пайду з імі, то забяруць усю сям’ю.

У выніку мяне забралі ў Кёнінгсберг, везлі туды цягніком. Везлі не ў цялятніках, а ў добрых камфартабельных вагонах. Усё праз святы".

Тады разам з 17-гадовай Ірэнай вывезлі яшчэ дзевяць падлеткаў з Гродна.

«Брат мне пісаў, што калі вывезуць, то казаць, што ведаеш нямецкую мову. Тады можна трапіць у сям'ю, а не на фабрыку. Прывезлі нас у сартавальны лагер, і я сказала, што ведаю трохі нямецкую мову, бо вучыла ў школе. Там мяне абрала сям'я фабрыкантаў. Мой пан быў уладальнікам заводу Opel, дзе рабілі аўтамабілі.

Пасля адбору я разам з так званымі гаспадарамі паехала на машыне да іх дадому. Прыехалі, а там асабняк са сваім возерам. Па прыездзе мне гаспадыня сказала выкінуць смецце. Пакуль я ішла, то ўбачыла ў суседнім доме таксама дзяўчынку, якая мне сказала: "О Божа, вы тут не першая, гаспадыня нават біла сваіх працоўных". Шмат усяго мне расказала, так што я зайшла ў дом і расплакалася. Гаспадарам я сказала, што не буду працаваць і пайду шукаць свайго брата. Нечакана, але яны мне дазволілі яго знайсці».

Ірэна доўга шукала Томаша, у выніку знайшла яго ў мужчынскім лагеры. З вялікім спазненнем гродзенцы прыйшлі дадому да гаспадароў Ірэны. Пасля знаёмства з імі брату дазволілі час ад часу наведваць сястру.

### *Саветы вызвалілі і адправілі дадому*

У доме фабрыкантаў Ірэну кармілі вельмі дрэнна. Гаспадыня давала ёй у асноўным сухія скарынкі, мармелад і каву. Іншым разам і котку кармілі лепш. Такое дрэннае стаўленне гродзенка звязвае з асобай гаспадыні, якая паводзіла сябе, як тыповая нацыстка. Ірэна прабыла ў іх у доме да 1945 года.

"Там я рабіла ўсю працу і вяла гаспадарку. Вельмі галадала, але ўжо калі набліжаўся фронт, гаспадыня пакінула дом, застаўся толькі гаспадар і яго дачка. І ўжо тады я магла нармальна харчавацца і быць падобнай да чалавека. Пасля таго, як усе пакінулі дом, мяне адклікалі на сартавальны пункт і накіравалі на працу на фабрыку. А брат тым часам ужо капаў акопы для немцаў на фронце. Увесну мяне і іншых вывезеных з Гродна людзей вызваліла савецкая армія і вывела з абстрэлаў".

З прыходам савецкай арміі ў Кёнінгсберг вывезеных людзей сталі адпраўляць дадому ў суправаджэнні салдат.



*Ірэна Кізюкевіч у 2018 г.*

“Ішлі да Гродна пешшу, вельмі доўга. Начавалі, дзе даводзілася. І так да Беластока дайшлі. Там я сустрэла знаёмага на чыгунцы і спытала, што нам рабіць. А ён якраз ехаў у Гродна і сказаў, што на наступны дзень прыедзе з адказам. Мужчына прыехаў і сказаў, што бацькі сказалі мне ехаць дадому”.

Па прыездзе ў Гродна Ірэна трапіла ў рэпатрыяцыйны пункт, у якім правяла каля пяці дзён. Пасля дзяўчына захварэла на тыф і доўга ляжала ў шпіталі. Ачуняла і пасля вайны працавала швачкай.

# ФУТБОЛ, ПАГРОМЫ І ПРЫМУСОВАЯ ЭМІГРАЦЫЯ
## (Казімір Сальвясюк)

*Казімір Якубавіч Сальвясюк нарадзіўся ў 1922 годзе каля Гродна, у мястэчку Індура. Каталік. У канцы 1920-х Сальвясюкі пераехалі ў Гродна. Казімір вучыўся ў школе ім. Міцкевіча. У 1939 годзе быў высланы ў Казахстан, але ўцёк у Гродна. Пры немцах быў вывезены ў Германію на працу, зноў вярнуўся. Пасля вызвалення Гродна саветамі яго зноў выслалі, на гэты раз у глыб Расіі. Памёр у 2015 годзе на Радзіме.*

Сям'я Сальвясюкоў была вялікая, з васьмі чалавек, і бедная. Казімір быў самы малодшы. У канцы 1920-х Сальвясюкі пераехалі ў Гродна і жылі ў падвальных памяшканнях яўрэйскага дома на вуліцы Дамініканскай, там, дзе цяпер знаходзіцца ўнівермаг. Падчас Другой сусветнай вайны гэты дом разбамбілі.

У 1929 годзе юны Казік пайшоў вучыцца ў школу імя Міцкевіча, якая была каля Старога моста, там пазней знаходзіўся тонкасуконны камбінат. Ужо ў пачатку 1930-х бацькі Казіміра знайшлі грошы і пераехалі ў новае памяшканне на вуліцу Нарутовіча[13].

У 1936 годзе Казімір скончыў вучобу, і ў той самы час памёр яго бацька. Выцягваць вялікую сям'ю прыйшлося старэйшым братам.

«Я таксама спрабаваў працаваць. Каля года я быў пры спартыўным таварыстве "Крэсовія", дзе падаваў тэнісныя мячы на корце. Гулялі там у асноўным польскія афіцэры і памешчыкі. За два наступныя гады і сам навучыўся гуляць у тэніс, але звязаць з ім кар'еру не атрымалася, трэба было працаваць, а не займацца спортам. Дарэчы, да нас у горад на тэнісныя турніры прыязджалі спартоўцы з усёй Польшчы, было вельмі цікава».

---

[13] Цяпер – вуліца Дзяржынскага.




*Спартыўнае мерапрыемства на гродзенскім стадыёне. 1940-я гг. Сёння там знаходзіцца стадыён фізкультурнага факультэта ўніверсітэта ім. Янкі Купалы*

## *Футбол*

У Гродне футбол карыстаўся папулярнасцю: гродзенцы яго любілі і хадзілі на яго.

«Быў час, што хлопцы сыходзілі з вучобы, каб трапіць на чарговы матч з удзелам нашай каманды. У горадзе было за каго заўзець, і перада мною стаў выбар каманды. “ВКС”, “Макабі” або “Крэсовія”? Кожная была моцнай па-свойму, але я больш сімпатызаваў гарадской, ці, па-іншаму, цывільнай камандзе “Крэсовія”. Іх база знаходзілася на цяперашняй вуліцы Дзяржынскага. На гэтай базе было ўсё. Летам былі корты, зімой – каткі, залы для бокса, гімнастыкі, барацьбы і г. д».

У школе з Казімірам вучыўся Мельнікаў[14], і ён ужо гуляў за аснову “Крэсовіі”, быў таленавітым хлопцам. У 1941 годзе ён пайшоў на вайну, вярнуўся і працягнуў гуляць у футбол.

---

[14] Канстанцін Мельнікаў – вядомы гродзенскі футбаліст, які гуляў як у польскім Гродне, так і ў савецкім.




*Адна з яўрэйскіх крамаў у цэнтры Гродна пасля пагромаў, 1935 г.*

«Нам, хлапчукам, патрапіць на футбол у Гродне было няцяжка. Аховы на стадыёне не было, мы ўсюды прабягалі. Наведвальнасць матчу была вялікая, цяпер шматлікія беларускія клубы столькі не збіраюць. Тады на стадыёне дарослыя дзядзькі і піва пілі, і ні ў каго не было думкі кінуць бутэльку на стадыён.

Гарадскі стадыён знаходзіўся на вуліцы Сабескага[15], 3. У 1930-я гады гэты адрас быў вядомы кожнаму хлопцу ў горадзе, усе дарогі вялі туды. Стадыён быў уласнасцю “ВКС” (“Вайсковы клуб спартовы”), але там гулялі ўсе каманды, якія прадстаўляюць Гродна, бо іншых стадыёнаў не было. Яўрэі з “Макабі” планавалі пабудаваць свой, але зрабіць гэта ў іх не атрымалася».

## *Пагромы ў Гродне*

Казімір у 1935 годзе стаў сведкам яўрэйскага пагрому ў Гродне. У той момант яму ўдалося нават скрасці селядца ў краме.

---

[15] Сучасная вуліца Захарава.



*Казімір Сальвесюк (злева) ідзе з сябрам па вуліцы Дамініканскай, 1938 г.*

“Хлопец-марак, які служыў у Гдыні, прыехаў дадому ў адпачынак. У выхадны дзень наведаў матч з удзелам мясцовых каманд, а пасля вырашыў з сябрамі пайсці на танцы, якія скончыліся для яго смерцю.

Гэты вайсковы хлопец на танцах запрасіў прыгожую яўрэйскую дзяўчыну, усё было добра, калі б яны не пацалаваліся. Але адбылося ўсё інакш, хлопец нават правёў дзяўчыну дадому, а раніцай яго знайшлі мёртвым з нажавымі раненнямі”.

У горадзе хутка знайшлі забойцу. Як высветлілася пазней, хлопца парнулі ножыкам у бойцы.

«Тады амаль кожны яўрэй насіў з сабой ножык, які хаваў недзе збоку. Праз некалькі дзён пасля забойства ў Гродне з’явіліся вайскоўцы і разам з палякамі яны сталі граміць яўрэйскія крамы. Гэта быў сапраўдны пагром, яўрэі ўсе пахаваліся. Не сказаць, што іх было менш – насельніцтва ў нас было 50 на 50. Проста яўрэі разумелі, што нават паліцыя на баку палякаў. Шчыра кажучы, і я прыняў удзел,

мне давялося скрасці селядца ў краме, дзе цяпер знаходзіцца сядзіба Саюза палякаў у Беларусі. Тады там была крама – “Касмандаль”, а насупраць – “Любіч”».

## *Казахстан і вяртанне ў Гродна*

У 1939 годзе старэйшага брата Казіміра не стала, ён быў узяты ў палон савецкай арміяй як польскі афіцэр і расстраляны. У той самы момант сам Казімір знаходзіўся ў горадзе Асовец Падляскага ваяводства, пасля павінны быў уцякаць у Англію. Але яму прыйшлося вярнуцца ў Гродна. Новая ўлада вырашыла выслаць сям’ю Сальвясюкоў на ўсход праз тое, што яны сваякі польскага афіцэра. Доўга гродзенец у Казахстане не прабыў, уцёк ужо на другі месяц высылкі. Таварнымі вагонамі зноў дабраўся ў родны горад, у якім савецкая ўлада наводзіла свае парадкі.

“Па вяртанні, амаль праз месяц, пачынаецца вайна з немцамі. Яны пачалі бамбіць некаторыя аб’екты ў горадзе. І зноў новая ўлада – новыя парадкі. Сітуацыя ў горадзе была незвычайная. Тыя людзі, якім мы раней зайздросцілі, знаходзіліся ў клетцы, яны гатовыя былі золата мяняць на ежу. Кожны дзень былі чутныя стрэлы. Запомніўся мне адзін выпадак у горадзе, калі ўсіх яўрэяў выселілі ў гета: тады два палякі сталі абкрадаць кватэры, у якіх некалі жылі людзі. Пакаранне смерцю было публічным, і з тых часоў у горадзе не было крадзяжоў.

Успамінаецца яшчэ адзін выпадак: вядомы яўрэй, прозвішча ўжо забылася, ішоў і не паспеў зняць капялюш перад салдатамі Вермахта. Не зняў, бо выходзіў з-за вугла і іх не бачыў. Бедны доктар быў моцна збіты”.

## *Германія і чарговае вяртанне ў Гродна*

У першы год нямецкай акупацыі Казімір быў схоплены на Тэлеграфнай спецыяльным адборачным атрадам, які выслаў яго ў Германію на працы.

“У той час усіх маладых, працаздольных людзей вывозілі на работы ў Германію, у гэты спіс трапіў і я. Працаваў у горадзе Гольдам, у гаспадара-прыватніка. На зарплату не скардзіўся, плацілі добра – 30 марак. Там працаваў нядоўга, вярнуўся на Радзіму, на гэты раз ішоў цалкам пешшу”.



*Казімір Сальвясюк у 2015 г.*

Па вяртанні ў Гродна Казімір застаў родны горад яшчэ пад нямецкай акупацыяй.

“Тады ў горадзе квітнеў прымежны бізнес. Гродзенцы вазілі як тытунь, так і соль у суседнюю Літву, бывала, на таварных нямецкіх цягніках, бывала і пешшу. І я таксама так працаваў, ды і тут доўга не затрымаўся. Аднойчы ішоў у тую ж Літву, і дзесьці пад Новавілейкай трапіў на супрацьпяхотную міну. Быў ужо 1943 год, я апынуўся ў шпіталі. Неяк перажылі немцаў і зноў прыйшлі саветы. Наступныя гады 1944–45 усіх маладых заклікалі на фронт. Я са сваім раненнем нікуды не падыходзіў, выдалі ваеннік на рукі”.

### *Чарговая высылка*

Але Казімір Якубавіч заставаўся вольным нядоўга, новая ўлада зноў адправіла яго ў далёкія краі, на гэты раз на Урал. Прыйшлося Сальвясюку і там асвойвацца. Гродзенец правёў на чужыне доўгія гады, працаваў лесарубам. Там і ажаніўся.

Толькі ў 1960 годзе, з дапамогай Чырвонага Крыжа яго маці, якая ўжо знаходзілася ў Польшчы, адшукала свайго сына. У 1977 годзе Казімір выйшаў на пенсію і вярнуўся ў Гродна, дзе жыла яго сястра.

# НЕМЦЫ «ПАЗНАЁМІЛІ» СА ШКОЛАЙ
## (Сцепаніда Бандарук)

*Сцепаніда Бандарук нарадзілася ў вёсцы Белавежа ў 1934, а праз пяць гадоў разам з бацькамі пераехала ў Гродна. Падчас вайны насіла запіскі партызанам і была затрыманая ў камендацкую гадзіну.*

### *Немцы "пазнаёмілі" са школай*

Першы раз у будынку школы "усэмкі"[16] маленькая Сцепаніда пабывала падчас нямецкай акупацыі: туды яе адвялі салдаты, калі выявілі на вуліцы пасля каменданцкай гадзіны. Школа афіцыйна адкрылася на тагачаснай вуліцы Базыліянскай у 1938 годзе. Яна знаходзілася ў вялікім драўляным будынку, які захаваўся да сёння. Да нядаўняга часу там была спецыялізаваная школа №1.

«У школе падчас вайны была нямецкая частка, якая ахоўвала горад. Быў там адзін рускі дворнік, да яго мы часта хадзілі і перадавалі таемныя тэлеграмы, якія дзецям у Свята-Пакроўскім саборы даваў памочнік святароў Вагнер. Запіскі гэтыя былі адрасаваныя партызанам. Мы перадавалі іх дворніку, а за свае паслугі ён патрабаваў самагонку.

Адзін раз я несла яму такую запіску і не паспела данесці – пачалася каменданцкая гадзіна. Немцы спынілі мяне і павялі ў частку. Памятаю, што завялі ў падвал, дзе стаяў стол і вада скрываўленага колеру. Білі мяне там моцна, цудам выжыла. Але знайшліся добрыя салдаты, якія схавалі мяне ў казарме, а пасля дапамаглі патрапіць дадому.

---

[16] Школа № 8 на тагачаснай вуліцы Базыліянскай, сёння Лермантава. Цяпер вядомая як школа № 4.



*Былая “ўсэмка” ў 2018 г.*

Маці казала: “Ты хоць бітая-перабітая, але ўсю сям’ю корміш”. Пасля гэтага выпадку я яшчэ часта выходзіла на вуліцу. Спецыяльна ў агародзе кветкі рвала, а пасля іх насіла немцам. А яны наўзамен мне зрэжуць хлеба і тушонкі туды пакладуць. Вось так і выжывалі».

### *Пераезд у дом ля школы*

З 1939 года пасля прыезду ў Гродна сям’я Сцепаніды жыла на вуліцы Нёманскай, а пасля таго, як іх дом згарэў, немцы дазволілі пераехаць на вуліцу Базыліянскую, побач са школай.

“Прыехалі мы ў Гродна да сваякоў ужо пасля таго, як прыйшлі саветы. Гэта быў 1939 год. Трохі пажылі ў мамінай багатай сястры на сучаснай вуліцы Лелявеля, а пасля пераехалі на Нёманскую, дзе быў невялікі драўляны дом.

У 1941 году дом згарэў праз выліты бензін. Немцы ўвайшлі ў нашу сітуацыю і далі нам стары дом на вуліцы Лермантава, адкуль была выселена яўрэйская сям’я, напэўна, у гета. Да нашага прыходу ў доме

нічога ўжо не было, акрамя аднаго стала. Са сваіх рэчаў у нас быў адзін дыван, які служыў матрацам і коўдрай.

Яўрэі так і не вярнуліся ў дом, а мы працягнулі там жыць. Мы яго атрымалі не за здраду, а таму, што сям'і не было дзе жыць. Савецкая ўлада дом ужо не забірала".

## *Праннё для афіцэраў*

Суседства са школай, дзе была жандармерыя, іншы раз не давала спакою сям'і Бандарук. Частымі і няпрошанымі гасцямі ў доме былі маладыя афіцэры, якія прымушалі маці Сцепаніды мыць іх вопратку.

"Немцы былі розныя, былі і тыя, якія закрывалі вочы на тое, што мы кармілі праз калючы дрот яўрэйскіх дзяцей. А былі і дрэнныя, якія часта заходзілі да нас дадому і прыносілі да маці сваю вопратку праць. Пры гэтым не давалі ніякіх парашкоў або мыла, а патрабавалі чыстую вопратку.



*Сцепаніда Бандарук са сваім братам у пасляваенныя гады*

Маме даводзілася неяк выкручвацца. Яна брала хлорку і вымочвала вопратку ў ёй, а пасля старанна вымывала ў бочцы, каб не смярдзела. Калі немцы чулі хлорку ў сваёй вопратцы, то білі вельмі моцна.

У выніку маці надакучыў здзек афіцэраў і яна пайшла да камандзіра часткі. Камандзір выслухаў і пасля выклікаў да сябе гэтых афіцэраў. Пры ёй ён сарваў з іх пагоны, а таксама сказаў выплаціць маці грошы за ўсе паслугі і пакуты. Праз некалькі дзён немцы заплацілі трохі грошай і больш ніколі не прыносілі нам праць вопратку".

### *Салдаты дагэтуль не перапахаваныя*

Было ў школе і такое месца, дзе трымалі "злачынцаў". У асноўным там трымалі партызан, якіх потым вешалі на Савецкай плошчы. Як распавядае Сцепаніда, на паказальнае пакаранне на плошчу зганялі ўвесь горад.



*Сцепаніда Бандарук у 2018 г.*

«Горад быў невялікі і вялі на паказальнае пакаранне амаль усіх. Такім чынам і запалохвалі. Падчас вайны мы, дзеці, хутка сталі дарослымі, асабліва, калі хавалі салдат, як нямецкіх, так і рускіх. Адзін немец ляжыць і сёння на Віленскай вуліцы, мы яго глыбока не закопвалі. Выкапалі тады невялікую яму і туды яго, і нават аўтамат яму на грудзі паклалі. У савецкі час я хадзіла ў ваенкамат і казала, што там салдат ляжыць, а мне ў адказ: “Якая твая справа?”. Такая ж гісторыя і з двума рускімі салдатамі, якіх пахавалі пад дубам ля школы на Лермантава».

### *Кватэру так і не далі*

У будынку школы, дзе была жандармерыя, Сцепанідзе давялося вучыцца пасля вайны, праўда трохі, бо, як кажа, была ўжо пераросткам. У доме на Лермантава яе сям’я пражыла да 1997 года, пакуль яго не знеслі. Узамен часовы падменны фонд гарвыканкама выдаў Сцепанідзе і іншым членам сям’і невялікія пакоі. Напрыклад, Сцепаніда атрымала пакой на Мядовай. Абяцалі даць кватэру, якую ў выніку так і не далі. А ў атрыманым пакоі яна жыве са сваім мужам дагэтуль.

# ЛАВІЎ НЯМЕЦКІХ ШПІЁНАЎ І НЕ ТОЛЬКІ
## (Анатоль Песняк)

*Анатоль Міхайлавіч Песняк нарадзіўся ў 1926 годзе ў Гродне. Праваслаўны. Вучыўся ў школе № 8 на Лермантава. У 1939 годзе з сябрамі ў Гродне выявіў нямецкіх шпіёнаў. Падчас нямецкай акупацыі сядзеў у гестапа. Ветэран Другой сусветнай вайны.*

### *Дом з рэстаранам*

Нарадзіўся Анатоль Міхайлавіч на вуліцы Віленскай у доме № 6. Гэты дом, у яўрэйскім квартале, будаваў яго дзед, які ў пачатку ХХ стагоддзя на першым паверсе меў рэстаран. У міжваенны час Песнякі займалі толькі некалькі пакояў у вялікай двухпавярховай пабудове, усе астатнія сям’я здавала ў арэнду.

“Мае дзядуля і бабуля памерлі, калі я быў вельмі маленькім, так што з імі паразмаўляць я не змог, каб даведацца больш пра свой род. Але мама распавядала, што наш дом на вуліцы Віленскай пабудаваў дзед, і на першым паверсе ў яго быў уласны рэстаран. У 1930-х гадах гэтага рэстарана ўжо не было – быў звычайны жылы дом.

Мой бацька быў шаўцом, а маці даглядала гаспадарку. А былі ў нас у двары свінні і куры – усё тое, што трымалі звычайныя людзі ў Гродне. Хоць было і кепска трымаць у цэнтры горада такіх жывёл, але мы спрабавалі. Пры паляках кожны тыдзень да нас прыязджала паліцыя і глядзела, каб быў парадак і чысціня”.

### *Сем класаў пры паляках, два пры саветах*

Бацькі аддалі маленькага Анатоля Песняка ў школу № 8, “усэмку”. Там ён правучыўся сем класаў пры польскай уладзе і яшчэ два класы прасля прыходу савецкай.

“Вучыўся я ў школе імя Пілсудскага на вуліцы Базыліянскай. Вучоба мне падабалася. Памятаю як цяпер, што ў нас была настаўніца Салаўёва, дык магла пеналам па руках так даць, што больш глупствам ніхто не займаўся. Пасля яе ўдараў рукі балелі доўга, але ніхто ніколі не скардзіўся на яе. Дурніца старая была адна такая ў школе. А агулам усе настаўнікі да вучняў ставіліся добра.

Школа ў нас была добрая. Нават сняданак давалі ўсім бясплатна: каву і булачку. І ў школу не трэба было торбы цягаць, як пры саветах. Атрамант, сшыткі і кнігі – усё было ў навучальным будынку. І кожны вучань меў сваю шафку, дзе можна было захоўваць рэчы. У маёй школе ў асноўным вучыліся дзеці з ускраіны горада – вёскі Пярэселка. Ведаю, што сёння з маіх аднакласніц яшчэ жыве Ірэна Кізюкевіч. Паступаць у гімназію пры паляках я не мог, бо быў праваслаўным.

Была ў нас у школе форма і абутак, у якім я хадзіў на заняткі. А ў царкву ў нядзелю я хадзіў ужо ў іншым, прыбраным адзенні і ў прыгожых лакавых туфлях. А так наогул на любы выхад у горад у нашай сям’і было адзенне. Гэта цяпер кажуць, што ў Гродне пры паляках нічога не было, але калі чалавек нармальна працаваў, то ў яго ўсё было”.

### *“Вайна на яўрэяў”*

У вольны ад вучобы час малады Анатоль займаўся асабістымі справамі: вырошчваў трусоў (хобі захавалася і дагэтуль) і гуляў на вуліцы з мясцовымі дзецьмі. Часцяком мясцовыя палякі разам з праваслаўнымі ладзілі бойкі з яўрэйскімі хлапчукамі.

«Пасля вучобы дзеці займаліся рознымі справамі. Хтосьці мог дапамагаць бацькам па гаспадарцы, а хтосьці гуляць у гульні. Напрыклад, мы гулялі ў футбол і часта ладзілі “вайну на яўрэяў” у раёне вуліцы Архірэйскай[17]. Можна сказаць, банда на банду ішлі. Кідаліся камянямі і ўсім, што патрапіцца. Быў у нас нават карбід у той час. Разводзілі яго ў бутэльках і кідалі, а пасля ён выбухаў.

Але, нягледзячы на такія гульні, мы сябравалі з яўрэямі, бо жылі ў адным раёне. Вось добры прыклад – у іх у суботу да пяці гадзін вечара шабат і ніхто не працуе. І пасля выхаднога дня кожны яўрэй

[17] Верагодна, гаворка пра вуліцу Грандзіцкую, цяперашнюю Горкага, дзе месціцца Архірэйскі падворак.

хацеў хутчэй пайсці працаваць, і прасілі такіх, як я, хрысціянскіх хлапчукоў, загадзя распальваць печы. За гэта нам плацілі.

Хаця ў горадзе ўсе жылі па суседстве, былі ў нас і страшныя яўрэйскія пагромы. У сярэдзіне 1930-х у Гродна на адпачынак прыехаў польскі марак, і на танцах у школе Рэйзнера, якая знаходзілася на вуліцы Брыгіцкай, яго забілі. Было гэта праз дзяўчыну. Мясцовыя яўрэі гэтага марака моцна пабілі і парэзалі.

Пасля гэтага выпадку палякі ў горадзе зладзілі пераварот. Білі ўсё, што было жыдоўскае, нават забівалі людзей. Мы жылі ў цэнтры і ўсё было добра відаць з акна. Але на вуліцу з нашых ніхто не выходзіў, бо было страшна. Паліцыя не спрабавала спыніць пагромы. Яны працягваліся двое сутак. Пасля ўсё сціхла і горад зноў жыў звычайным жыццём».

### *Жыццё ў яўрэйскім квартале і нечаканы ўлоў на Нёмане*

Дом Песнякоў у міжваенны час быў адзіным праваслаўным у яўрэйскім квартале. І ён адзіны не меў уласнай крамы.

“Мая сям’я жыла ў яўрэйскай зоне: раён ад Віленскай вуліцы да пажарнай каланчы. Тут практычна ў кожным доме ў яўрэяў былі свае пякарні і крамы. Быў там і рыбны рынак, дзе можна было знайсці любую рыбу. Памятаю, у адмысловых карытах плавалі добрыя шчупакі. Рыбу лавілі каля Старога замка, пасля яўрэі яе забіралі і везлі на рынак. Аднойчы ў нас нават была марская асятрына ў Нёмане. Да нас яна трапляла з Балтыкі, бо не было тады ніякіх дамбаў, як цяпер.

У 1937 годзе адзін хлапчук злавіў на вуду гэтую асятрыну, а памераў яна была велізарных. Яму дапамагалі выцягваць рыбіну каля сямі чалавек. Купіў гэты каштоўны ўлоў пан Куявінскі, які трымаў рэстаран на вуліцы Дамініканскай[18], на тым месцы, дзе цяпер універмаг. Везлі да яго гэтую рыбу на возе, а хвост па зямлі валачыўся.

Мы – школьнікі – радаваліся, калі суправаджалі ўлоў з Нёмана ў цэнтр горада. Нават журналісты прыходзілі і фатаграфавалі ўдачлівага хлапчука. Ніхто ў нас тады не бачыў яшчэ такой рыбы. А Куявінскі мог дазволіць сабе гэткую рыбу. У яго заўсёды ў рэстаране былі людзі, у асноўным прыезджыя паны. Ведаю, што пасля кавалачак той асятрыны з Нёмана каштаваў у яго вельмі дорага”.

[18] Сучасная вуліца Савецкая.



*Асятрына, якую злавілі каля Гродна ў Нёмане ў міжваенны час. Рыба была больш за два метры даўжынёй і вагой 96 кг. Той улоў рыбакі прадалі ў гродзенскі рэстаран "Еўропа"*

## *Гандаль: бананы, ананасы і ўсё, што пажадаеш*

У міжваенны час практычна ўвесь гандаль у Гродне належаў яўрэям. Яўрэйскія крамы былі на кожнай вуліцы, асартымент быў вялікі. Але прадстаўнікі іншых нацыянальнасцяў таксама мелі свае кропкі гандлю ў польскім Гродне.

"Калі шчыра, то ў 1930-х гадах у Гродне можна было купіць усё, што душа пажадае: бананы, мандарыны, ананасы, розныя прысмакі і многае іншае. У любой краме можна было купіць патрэбную рэч, а калі не было грошай, то давалі ў заклад. Наша сям'я так ніколі не брала. Самае цікавае, што палякі не гандлявалі масава ў Гродне, бо гэтай справай у горадзе займаліся выключна яўрэі. Палякам цяжка было весці з імі бізнес, бо тыя пастаянна збівалі цану, а людзям лепш купляць тое, што танней. Паляк такім чынам станавіўся банкрутам і закрываўся.

Асабіста я любіў хадзіць у турэцкую пякарню, яна была ў тым месцы, дзе цяпер ЗАГС на Савецкай. Там у іх было living печыва



*Анатоль Песняк (злева) са сваім сябрам у цэнтры Гродна, падчас нямецкай акупацыі. 1943 г.*



*Анатоль Песняк ў Сібірскім танкавым вучылішчы 1944–45 гг.*

на любы густ. А насупраць туркаў была крама, дзе гандлявалі македонцы. Там на прылаўках былі вялікія кавалкі халвы і шакаладу, ад іх адразалі па патрэбе пакупнікоў.

Наогул, у 1930-х гадах казалі, што ўся гандлёвая вуліца Даміканская належала аднаму багатаму яўрэю, зараз я ўжо не ўзгадаю ягонага прозвішча, але ведаю, што ён меў шакаладную фабрыку ў Беластоку. І ён быў заўзятым гульцом у карты і неяк прагуляў усё. А жыццё скончыў самагубствам – павесіўся".

### *1939. За нямецкага шпіёна давалі шакалад*

Напярэдадні Другой сусветнай вайны ў Гродне з'яўляліся нямецкія шпіёны, якія стваралі падрабязныя карты мясцовасці.

"Чуткі пра вайну хадзілі, але ніхто не думаў, што яна пачнецца так хутка. Напярэдадні вайны ў Гродне сталі з'яўляцца дзіўныя вулічныя музыкі. Хадзілі яны ў асноўным па цэнтры горада. Яны не

толькі выступалі, але і фатаграфавалі. Як аказалася пасля, гэтыя музыкі былі нямецкімі шпіёнамі, якія збіралі інфармацыю для будучых баявых дзеянняў.

Мы, 13-гадовыя падлеткі, злавілі такіх музыкаў на вуліцы Віленскай каля лазні. Яны фатаграфавалі вуліцы, а паліцыя папярэджвала, што калі будуць падазроныя людзі, то неадкладна паведамляць. Мы паведамілі ў паліцыю, што музыкі не граюць, а ўвесь час фатаграфуюць. У выніку затрымалі гэтых дзіўных музыкаў, і ў іх пры сабе было шмат розных дакументаў і картаў. Нам потым аддзячылі шакаладам і сказалі, што мы злавілі нямецкіх шпіёнаў. Было прыемна".

### *Абарона горада ад камуністаў*

З пачаткам Другой сусветнай вайны жыхары Гродна чакалі атакі немцаў, але ніяк не СССР. Прыход саветаў быў неспадзеўкай для ўсіх.

"У верасні 1939 года ў Гродне пачалася падрыхтоўка да абароны горада. З прыходам саветаў усе хлапчукі з мясцовай семінарыі і гімназіі ішлі на танкі з бутэлькамі з запальнай сумессю. Тады тры танкі спалілі на вуліцах горада. Многія 16–17-гадовыя гродзенцы змагаліся на вуліцах.

Што адбывалася – не перадаць словамі. Дурні тыя людзі, якія адпраўлялі падлеткаў на гэтую справу. Гэта ж жалезная тэхніка, ісці на танкі маглі толькі фанатыкі. Асабіста я не пайшоў у тыя дні на вуліцу. Дурная вайна была.

Калі ўсё скончылася, я выйшаў на вуліцу – ніхто савецкую ўладу не сустракаў. Ведаеце, акурат мая сям'я жыла пры любой уладзе і падпарадкоўвалася. Мне за польскім часам жылося добра. І пры саветах таксама не скардзіўся, і нават Сталін мне падабаўся. Магу сказаць, многія гродзенцы самі зрабілі сабе пятлю на шыі".

### *Рэпрэсіі*

У 1939 годзе з прыходам савецкай улады пачаліся сур'ёзныя рэпрэсіі. Гараджан саджалі ў турму, высылалі на ўсход і расстрэльвалі. Сям'я Песнякоў таксама трапіла пад рэпрэсіі, але вывезці яе саветы не паспелі.

"Забіралі тых, хто быў багатым. Наша сям'я трапіла пад рэпрэсіі праз вялікі сямейны дом у цэнтры горада. Пакоі мы здавалі ў арэнду.

Сям'ю рыхтавалі да вывазу 23-га чэрвеня 1941 года, а вайна пачалася 22-га чэрвеня. Так што нам пашанцавала і сям'я засталася ў Гродне".

### *1941. Выселілі з дома, бо стваралі гета*

Калі немцы прыйшлі ў Гродна, то адразу ж сталі ў горадзе наводзіць свае парадкі. Усіх яўрэяў адправілі ў гета, а палякаў – на прымусовыя работы. Пры новай уладзе сям'я Песнякоў пазбавілася і свайго вялікага дома на Віленскай. Іх выселілі, бо стваралася гета.

"Далі нам наўзамен пабудову на вуліцы Вапеннай каля старога гарбарнага завода. Нашым суседам быў начальнік палявой жандармерыі, ён жыў у пані Зілінскай. Сама ж гаспадыня жыла ў склепе.




*На рагу – дом Песнякоў. Дом быў пабудаваны ў 1888 г., у міжваенны час, пакой Анатоля Міхайлавіча знаходзіўся на другім паверсе. Сям'ю высялілі з дома, калі немцы стваралі гета ў 1941 г.*

Заходзілі немцы да нас часта. Прыходзілі ў асноўным да бацькі, які добра рамантаваў абутак. Немцы паважалі яго за якасную працу і заўсёды дзякавалі".

### *Пры немцах пакутавала інтэлігенцыя і яўрэі*

І саветы, і немцы выкарыстоўвалі інтэлігенцыю горада ў сваіх мэтах. За забітых немцаў у закладнікі бралі па 200 лепшых спецыялістаў горада. Расстрэльвалі іх потым у Пышках каля моста. Там жа і закопвалі ў ірвах. Нават сёння на месцы тых расстрэлаў няма ніякага крыжа.

"Гродзенская інтэлігенцыя пакутавала праз забітых немцаў, а яўрэяў чапалі проста так. Іх усіх сагналі ў гета. Спачатку яўрэі маглі яшчэ працаваць у горадзе, але пасля ім забаранілі выходзіць з гета. Здзекаваліся з іх там. Спачатку ўсё золата ў іх патрабавалі, а калі яго не аказалася, людзей сталі публічна забіваць і знішчаць гета. Памятаю, як вялікую колькасць яўрэяў вялі пад канвоем па вуліцы Карла Маркса. Вялі іх усіх на вакзал, а там грузілі ў вагоны для быдла. А везлі іх, напэўна, у лагеры смерці.

Шкада было людзей, але мы, гараджане, нічога не маглі зрабіць. Былі людзі, якія хавалі яўрэяў. Памятаю пана Янулевіча, які хаваў у яме трох яўрэяў, а яны яму за гэта ўвесь час плацілі золатам. Але ён пратрымаў іх у сваёй яме і сам сябе выдаў, калі выпусціў вязняў падыхаць паветрам. Адзін з іх пачуў савецкі гімн недалёка ад дома і не зразумеў, што адбываецца. Ноччу гэты яўрэй збег да суседзяў і даведаўся, што ўжо некалькі месяцаў, як Гродна вызвалілі савецкія войскі. Старога Янулевіча хацелі забіць, але яго міліцыя апраўдала, бо ён карміў і хаваў яўрэяў. Але тое, што ён сваёй жонцы купляў дарагія рэчы, нікога не збянтэжыла…".

### *Двое сутак у гестапа*

"Памятаю, пры немцах былі ў Гродне такія начальнікі: Іваноў, Візэ і Стрэблёў. З некаторымі мне і брату ўдалося сустрэцца асабіста, калі нас двое сутак пратрымалі ў гестапа.

Падчас нямецкай акупацыі мы з братам працавалі на абутковай фабрыцы, якая знаходзілася на сённяшняй вуліцы Леніна. Рабілі на фабрыцы немцам боты. У адзін дзень нас з братам забралі жандармы

ў гестапа і моцна білі. Для іх важна было даведацца, хто крадзе скуру з фабрыкі. Але мы нічога не сказалі.

Калі шчыра, я да гэтага часу хаджу з папернікам, які рабіў у Гродне з нямецкай скуры. Калі выпускалі нас з гестапа, то супрацоўнікі папрасілі распісацца ў дакументах за тое, што яны нас білі і катавалі. Напрыканцы гестапаўцы сказалі пайсці на фабрыку і расказаць, што яны з намі рабілі".

## *Саветы вызвалілі і адразу забралі ў войска*

З вызваленнем Гродна ў 1944 годзе вайна для Анатоля Міхайлавіча не скончылася. Маладога гродзенца прызвалі ў савецкую армію, а пасля на фронт.

"Як саветы нас вызвалілі, то праз тыдзень мяне забралі ў армію. Мне не было тады 18 гадоў. Я быў з адукацыяй, і адразу ж мяне накіравалі ў Мінск у лётную частку, але адтуль перанакіравалі ў Сібірскую танкавую вучэльню. Рэзка ў іх памяняліся планы, пасля таго як даведаліся, што я жыў пад нямецкай акупацыяй.



*Анатоль Песняк у 2018 г.*

У Сібіры за шэсць месяцаў скончыў вучэльню і атрымаў малодшага лейтэнанта з пасадай камандзіра танка. Вайну яшчэ заспеў у Кёнігсбергу. Было так, што толькі два разы на суткі можаш ісці ў бой. Супернік добра трымаў абарону.

Дзень перамогі я сустракаў у 60-ці кіламетрах ад Берліна. Колькі раздушыў немцаў на танку – цяжка сказаць, гэта была вайна. Я ўсведамляў, што перад маёй тэхнікай людзі, але і я чалавек. І калі сябе не будзеш абараняць, то цябе заб’е праціўнік. Я іншы раз успамінаю тыя страшныя баі, і, бачыць Бог, я нядрэнны чалавек, была страшная вайна, дзе трэба было сябе абараняць”.

## *Пасляваенны Гродна было не пазнаць*

У выніку Анатоль Міхайлавіч аддаў службе ў савецкай арміі больш за 20 гадоў і пабываў за гэты час у многіх месцах у свеце.

“Пасля вайны я застаўся ў арміі служыць далей. У Гродна вярнуўся ў 1960-х гадах. Як прыехаў, то не пазнаў родны горад. За пасляваенныя гады Гродна вельмі змяніўся. Мяне нават сястра не пазнала і не адчыніла дзверы. Пайшоў да маці, якая ўжо жыла па іншым адрасе. Наш сямейны дом, які пабудаваў дзед, як савецкая, так і сённяшняя ўлада не аддала. Хоць у сям’і маюцца ўсе дакументы, што ён належыць Песнякам. Пасля вайны саветы ў дом засялялі людзей з вёсак, а сёння там ужо нейкія офісы…”.

# ЖОРСТКІЯ НЕМЦЫ, СМЕШНЫЯ ІСПАНЦЫ І БЕДНЫЯ ЯЎРЭІ

## (Вера Чарнышова)

*Вера Фёдараўна Чарнышова нарадзілася ў 1928 годзе ў Гродне. Праваслаўная. Падчас налёту нямецкай авіяцыі бомба ўпала на яе дом, сям'я цудам уратавалася.*

Свіст мінаў, скінутых нямецкімі самалётамі на Гродна летам 1941 года, Вера Фёдараўна памятае як цяпер. Адна з бомбаў звалілася і разбурыла яе дом і месца, у якім яна хавалася з сям'ёй. Нягледзячы на цяжкае і страшнае дзяцінства, яна дагэтуль памятае ўсё ў дробязях.

"Пачаўся абстрэл горада, дзесьці ў 4 раніцы, мне здаецца, стралялі дальнабойнымі прыладамі. Мы ўсе ў той момант спалі і не маглі ўявіць, што нас чакае наперадзе. Калі ўпалі першыя бомбы, у людзей была паніка. Я памятаю, што тады бомбы разбурылі дамы на сучасных вуліцах 1-га Мая, Лермантава, пацярпеў і дах Фары Вітаўта. Шмат было разбураных будынкаў, загінулых і параненых людзей. Немцы выдатна ведалі, дзе і што ў нас у горадзе было размешчана. Яны бамбілі ў асноўным вулачкі, дзе жыла яўрэйская бедната".

### *Сям'я перажыла бамбаванне*

У 1941 годзе Вера з сям'ёй жыла на вуліцы Басняцкай[19], а ў момант абстрэлу яны хаваліся ў суседнім доме на рагу сучасных вуліц Ажэшкі і Тэлеграфнай.

"На наш дом ужо дзесьці ў абед упала бомба – было забіта пяць чалавек. Мы ж з сям'ёй хаваліся ўжо ў іншым доме. У той момант, калі ляцела чарговая бомба, мы з мамай і братам, абняўшыся, сталі

[19] Сучасная вуліца Сацыялістычная.

ў дзвярах [падвала, для бяспекі – *аўт.*], і я памятаю, што пасля выбуху мне цэглай моцна дало ў бок. Памятаю, што ў адно імгненне пасля выбуху маці знікла. На тату ўпала столь. Успышка асляпіла мяне, але мне неяк удалося дабрацца да акна і там мяне ўжо знялі. Нашай сям'і пашанцавала, усе засталіся жывыя. Мама здолела выцягнуць тату з-пад усіх абломкаў і цэглы. Яго неўзабаве забралі ў больніцу, медыкі яшчэ тады працавалі. Павезлі бацьку на Маставую, але там шпіталь ужо гарэў. Казалі тады, што каля 180 параненых гараджан там так і згарэлі. Але тату пашанцавала, яго своечасова перавезлі ў іншы шпіталь, які цяпер знаходзіцца на сучаснай вуліцы Ватуціна. Тое, што бацька застаўся жывы, мы спачатку не ведалі. А так многія пацярпелі, памятаю загінулых нашых суседзяў. Адна жанчына наогул стаяла з адарванай рукой, што з ёй стала потым, я нават і не ведаю".



*Калона нямецкіх аўтамабіляў на вуліцы разбуранага Гродна. 1941 г.*

### *Гродзенцы заходзілі ў крамы і бралі сабе патрэбныя рэчы*

Калі галаву сям'і павезлі ў шпіталь, маладая маці Веры з двума дзецьмі стала прабірацца па разбураным горадзе да сваякоў, у вёску, што знаходзілася недалёка ад Гродна.

"Дома ў нас ужо не было, з рэчаў ўсё прапала. Прыйшлося ісці да сваякоў за горад. Памятаю, што калі саветы ўцяклі, на вуліцах з'явілася панства, усе прыбраныя. Цікава, дзе яны хаваліся з 1939 года? Але калі немцы сталі з'яўляцца, то ім адразу далі зразумець, што не варта так ім вылучацца. Памятаю, што ў першыя гадзіны беглі (уцякалі) маладыя яўрэі, хтосьці быў нават на роварах. Усе імкнуліся пакінуць горад. Калі мы ішлі па вуліцах, то ва ўсіх крамах былі разбітыя шыбы, людзі заходзілі туды і бралі сабе патрэбныя рэчы. Бралі да таго моманту, пакуль не з'явіліся на вуліцах немцы".

### *Бацьку выратаваў знаёмы хірург*

Маці Веры пакінула дзяцей у вёсцы, а сама выправілася на пошукі мужа. Як выявілася, яго выратаваў знаёмы хірург, якому ён яшчэ да вайны шыў вопратку.

«Хадзіла мама па больніцах – пераварочвала трупы, і ў адным з месцаў здолела знайсці тату, ён быў жывы. Бацьку выратаваў вядомы гродзенскі хірург Іван Нічыпарук, якому тата да вайны шыў вопратку. Немцы з'явіліся ў горадзе ў першы ж дзень вайны, гэта было вечарам. Яны сталі з'яўляцца на другім баку горада. Акупанты адразу ж пачалі выдаваць свае законы, ад якіх у асноўным пацярпела яўрэйскае насельніцтва. Але ў цэлым для немцаў мы былі ўсе "швайны" (свінні). А яны для нас былі самыя сапраўдныя цывілізаваныя бандыты. Салдаты да мясцовых ставіліся яшчэ нармальна, нават памятаю, як адзін з іх казаў маёй маці: "Матка, не плач, гэта вайна". А калі пайшлі атрады карнікаў, стала страшней».

### *Зброю – у прыбіральні*

Праз некалькі дзён Вера разам з братам і маці вярнулася ў Гродна, у якім ужо ва ўсю панавалі немцы. За невялікі прамежак часу горад вельмі змяніўся.



*Вера Чарнышова і яе малодшы брат Віця на падваконні дома № 4 па вуліцы Басняцкай, у які трапіла бомба ў першы дзень вайны*

“Дома ў нас не было, і давялося шукаць сабе новае жыллё. Знайшлі кватэру на вуліцы Гараднічанскай, у тым месцы, дзе цяпер стаіць аблвыканкам. Памятаю, што мы занялі кватэру нейкага рускага начальніка, які ў першыя дні вайны паспеў уцячы. Кватэра, вядома, была разрабаваная, але жыць было можна. А ў нас у двары немцы дрэсіравалі сабак. Быў таксама недалёка штаб. І ў адзін момант салдаты прыйшлі да нас у кватэру і сказалі высяляцца. Далі на ўсё пра ўсё 24 гадзіны. Я памятаю, што ў кватэры была ванная і там ляжалі вінтоўкі і шаблі. Мы спалохаліся, і мама са знаёмай вырашыла раніцай выкінуць усю зброю ў грамадскую прыбіральню, каб нас ні ў чым не абвінавацілі. Усё так і зрабілі, а тыя прыбіральні, куды скінулі зброю, ужо ў пасляваенны час зачынілі, але калі ў будучыні будуць капаць, то абавязкова натрапяць”.

### *Дапамагалі знаёмым яўрэям*

З прыходам немцаў у горадзе была ўведзена камендантская гадзіна, нельга было з’яўляцца на вуліцы пасля 19.00. Менавіта таму вечарам маленькая Вера сядала на падваконне і назірала за салдатамі ў горадзе.

“Бачыла часта, як салдаты маршыравалі і адпачывалі. Не пашанцавала яўрэйскаму насельніцтву, немцы адразу сталі да іх дрэнна ставіцца – здзекаваліся, забаранілі хадзіць па тратуары, было загадана насіць апазнавальную жоўтую зорку. Амаль адразу яўрэям сталі рыхтаваць два гета. (Антонава і Траецкая). Памятаю, што мы адной нашай знаёмай сям’і ў гета пераносілі з дзяўчынкамі ў паліто ежу, тады яшчэ не было варот. На маіх вачах на Тэльмана адзін немец біў палкай маладую яўрэйскую дзяўчыну. За што ён з ёй так груба абышоўся, я нават і не ведаю, але з гараджан ніхто не мог сказаць і слова – усе баяліся. Страшна было, але людзі неяк працягвалі жыць”.

### *Іспанцы не хацелі ваяваць*

Разам з немцамі ў Гродне сталі з’яўляцца і іспанскія салдаты, многія з іх жылі ў кватэрах у гродзенцаў. Але калі пачалася адпраўка на фронт, шмат хто з іх стаў уцякаць.

“У іспанцаў у Гродне быў нейкі зборачны пункт. Памятаю іх добра: невысокага росту, чарнявыя і смешныя. Неяк я сядзела на пад-



*Вера Чарнышова ў 2018 г.*

ваконні і як раз іспанцы па горадзе ішлі. І адзін з іх пазірае на мяне – пацалункі паветраныя шле, пасля падышоў і дастаў з кішэні цэлую жменю цукерак і пачаставаў мяне. І гэта было падчас вайны. А наогул іспанцы не хацелі ваяваць, і калі ім трэба ўжо было збірацца на фронт, то многія хаваліся па горадзе. Мама распавядала, што адзін забег да нас і схаваўся пад ложкам. Пасля ён сышоў і пакінуў нам крыж”.

# ПОСПЕХ КРАМЫ ЯБЛОНСКАГА
## (Галіна Рудніцкая)

*Галіна Казіміраўна Рудніцкая нарадзілася ў 1934 годзе ў Гродне ў доме свайго “амерыканскага” дзеда. Яе бацька працаваў у вядомай краме “Віны і гарэлкі” ў Новым Свеце, вядомай як “Крама Яблонскага”. У 1939 годзе саветы нацыяналізавалі маёмасць гродзенцаў.*

“Гісторыя нашай сям’і ў доме на скрыжаванні Міцкевіча і Горкага пачалася ў 1926 годзе, калі дзед Ян вярнуўся ў Гродна з Амерыкі. Ён там працаваў звычайным рабочым, а ўжо на пенсіі пачаў піць. Каб не спіўся, па яго з Гродна выправіўся яго брат. Так ён і вярнуўся ў родны край з вялікімі грашыма”.

### Купіў дамы пляменніцам

На заробленыя грошы “амерыканец” купіў на вуліцы Міцкевіча два дамы для сваіх пляменніц. У адным з іх пасяліўся і ён.

“Дзед шмат гадоў пражыў за акіянам, але так і не завёў сабе сям’ю, хоць і быў жанаты. Ён любіў сваіх пляменніц і таму па прыездзе ў Гродна падарыў ім па доме. Больш за ўсё яму падабалася мая маці, у яе ён і пасяліўся. Яна ў сваю чаргу выйшла замуж за Казіміра Яблонскага – майго тату. Яны пераехалі ў Гродна з ваколіц Сапоцкіна”.

### Дзяцінства

Дзяцінства пры паляках Галіна Казіміраўна памятае толькі момантамі. Яны звязаны з паездкамі ў Друскенікі і крамай у доме.

“У 1930-я гады быў час, калі мы праз кожную нядзелю ездзілі ў Друскенікі, хтосьці з сям’і там яблыкі прадаваў. І вось аўтобус у гэты горад якраз спыняўся каля нашага дома. Памятаю, як бегла ладна апранутая да яго, а ў салоне ўжо была брудная. Таксама памятаю, як хадзіла з маці ў краму да яўрэя Кагаля, памятаю і краму, у якой бацька працаваў”.



*Галіна Рудніцкая і яе брат Яўген. Першая камунія (прычасце), канец 1930-х гг.*

## *Дом з усімі выгодамі*

У 1930-я гады крама Яблонскага была адной з самых папулярных у раёне драўнянага рынка па вуліцы Грандзіцкай[20]. Яна знаходзілася ў прыбудове дома і нават магла канкураваць з яўрэйскімі крамамі. Дом сям'і Яблонскіх таксама адрозніваўся ад іншых: ён быў з усімі выгодамі і добрым рамонтам.

"Пра тое, што мой дзед быў амерыканцам, чулі многія, але яго мала хто ведаў асабіста. А вось бацька быў чалавекам вядомым, ён шмат каму рабіў рамонты. У тым ліку і ў нас дома ён усё зрабіў. У 1930-я гады ў нашай хаце ўжо быў уласны туалет і ванна. Дзед жа лічыў сябе амерыканцам і яму хацелася, каб у яго ўсё было па-амерыканску. Бацька рабіў усё, дапамагаў у гэтым яшчэ і яўрэйскі сусед. Наша сям'я жыла ў адной кватэры ў доме, іншыя здавалі розным людзям".

[20] Сучасная вуліца Горкага.

## *Крама Яблонскага*

З часам у прыбудове дома з’явілася крама “Віны і гарэлкі”, там бацька Галіны Казімір Яблонскі працаваў прадаўцом.

“У гэтай крамы цэлая гісторыя, а тата мой быў там усяго толькі рабочым. Ён не мог атрымаць ліцэнзію на адкрыццё такой крамы, яе атрымаў адстаўны афіцэр Дардзінскі. Яму далі ліцэнзію на адкрыццё крамы вінаў і гарэлак і ён шукаў памяшканне, яму параілі звярнуцца да Яблонскага. Так ён і прыйшоў да нас. Бацька яму сказаў, што ніколі не гандляваў гарэлкай. Але афіцэр стаў настойваць, што бацька зможа раскруціць краму дзякуючы сваім знаёмствам. У выніку яны дамовіліся”.

У Казіміра Яблонскага быў досвед працы ў краме ў Сапоцкіне, але там ён гандляваў хатнімі прадуктамі. Пасля прыезду ў Гродна мужчына працаваў экспедытарам у “манаполіі спіртусовай” (краме з алкаголем).



*Казімір Яблонскі са сваёй жонкай*



*Дом Яблонскіх. Тут і сёння жыве Галіна Рудніцкая. Крама знаходзілася ў прыбудове злева. Здымак 2018 г.*

«Краму ў прыбудове дома адкрылі ў канцы 1920-х гадах і ўсе спачатку смяяліся, бо вакол гандлявалі адны яўрэі. Але насамрэч крама мела вялікі поспех, а ўсё таму, што яна знаходзілася побач з драўняным рынкам. Людзі гандлявалі, а потым усе ішлі ў краму выпіваць. Людзі давяралі майму бацьку і ведалі, што ён не будзе разводзіць гарэлку, як іншыя. І адсюль пайшло, што краму сталі называць па-народнаму – “крама Яблонскага”. Але яна нашай не была, наш быў дом».

## ***Камуністы зачынілі краму, а дом нацыяналізавалі***

Бацька Галіны Казіміраўны як прадавец зарабляў шмат. Нават пасля смерці ўладальніка, калі магазін перайшоў да жонкі Дардзінскага, а пасля да яго дачкі Галіны. Крама актыўна працавала да 1939 года, пакуль у Гродна не прыйшлі камуністы.

“З прыходам камуністаў усё памянялася, адразу ж зачынілі краму. У сакавіку 1940 года з Гродна сталі вывозіць палякаў, а да таго моманту ніхто і не ведаў нічога пра рэпрэсіі. Потым саветы пачалі ўсё перапісваць у горадзе, так дабраліся і да нас. У выніку два нашыя дамы нацыяналізавалі. Дзед быў ляжачым, але ён лаяўся з камуністамі, крычаў, што ён купіў іх за сумленна заробленыя грошы, а зараз у яго ўсё адбіраюць. Ён не мог зразумець, што такое нацыяналізацыя. Нас нікуды не вывезлі і мы засталіся жыць у сваіх кватэрах, а тыя памяшканні, якія здавалі, адышлі да дзяржавы. Там працягвалі жыць тыя ж сем’і, што і раней, толькі плацілі арэнду не нам, а ўжо дзяржаве”.

## *Распіскі замест грошай*

“Першыя саветы” на месцы крамы Яблонскага да 1941 года сталі прадаваць сокі. Хто там працаваў, Галіна Казіміраўна ўжо не ведала.

«У мяне дагэтуль недзе захавалася даведка пра нацыяналізацыю дома. Яшчэ да 1939 года здымаў у нас у доме кватэру адзін яўрэй, у якога быў склад драўніны. І неяк да яго прыйшлі камуністы па дошкі, як ён казаў, “купляць”. Яўрэй радаваўся, што яны нават не глядзелі дошкі і бралі ўсё запар. Казаў, што плацілі добрую цану. Толькі не грошы давалі, а распіску пакідалі. Ён ім усё аддаў, і застаўся ў выніку з паперкамі».

## *Таемнае навучанне*

Перыяд нямецкай акупацыі Галіна Казіміраўна памятае ўжо добра, менавіта ў гэты час яна пайшла вучыцца, хоць на гэта і была забарона.

«Памятаю, як пачыналася вайна і бомбы падалі на горад. Бацька мяне тады схапіў і мы спусціліся ў склеп. З прыходам немцаў стварылі гета для яўрэяў. Многіх нашых суседзяў туды забралі, яны так і не вярнуліся. Хтосьці ўцякаў, і людзі нават хавалі яўрэяў, дапамагалі ім.

Калі мне трэба было ісці ў першы клас, наш горад быў пад нямецкай акупацыяй. Я хадзіла на таемнае навучанне да настаўніцы Будрэвіч з “усэмкі” на Базыліянскай. Вучылася ў адной групе разам



*Галіна Рудніцкая ў 2018 г.*

са Збышкам, сынам Вевюрскага, дырэктара той школы. Я ведала ўсю іх сям'ю, іх расстралялі як закладнікаў. Толькі аднаму, старэйшаму Юзафу, удалося выжыць. Калі немцы прыйшлі па Вевюрскіх, ён быў у ад'ездзе. Так і выжыў. Пасля вайны ён прыязджаў у Гродна, але пазней з'ехаў у Польшчу».

### *Краму больш ніхто не адкрываў*

Падчас нямецкай акупацыі памёр дзед Галіны Казіміраўны Ян Грыцэвіч. Бацька ў вайну працаваў касірам на млыне ў Караліне, а мама была дома. Сям'я Яблонскіх перажыла вайну і ўжо пасля вызвалення стала наладжваць новае жыццё пры савецкай уладзе. Галіна Казіміраўна пайшла вучыцца, пасля працавала настаўніцай фізікі. А краму ў доме Яблонскіх больш не адкрывалі.

"І нават сёння, праз столькі часу, наш дом старажылы асацыююць з крамай Яблонскага, хоць яе там ужо няма. Але хай называюць, няхай так і будзе".

# САПРАЎДНЫ ПАЧАТАК ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ У ГРОДНЕ
## (Пелагея Аляшкевіч)

*Пелагея Вацлаваўна Аляшкевіч нарадзілася ў Варшаве ў 1932 годзе. Каталічка. У 1936 годзе яе сям'я пераехала ў Гродна. Бацька працаваў паштальёнам у гродзенскай турме і загінуў падчас налёту нямецкай авіяцыі ў 1939 годзе.*

Праз чатыры гады пасля нараджэння Пелагеі Аляшкевіч (Шупіцкай) яе бацькі вырашылі з Варшавы пераехаць на ўсход – у Гродна.

“Тата родам з Адэльска, а мама – карэнная варшавянка. Я ж усё жыццё пражыла ў Гродне і сябе лічу гродзенкай. Жылі мы да вайны добра, бо тата выцягваў усю сям'ю. Ён у 30-х гадах зарабляў добрыя грошы. Працаваў у гродзенскай турме паштальёнам – насіў розную дакументацыю і лісты. Мы жылі на вуліцы Райгроцкай (сучасная Гогаля), там у нас была часовая будыніна, пазней бацька планаваў пабудаваць дом”.

### *12 сутак гаўптвахты за перадачу газет Прытыцкаму*

Бацька Пелагеі Вацлаў Шупіцкі ведаў некалькі моваў, што і дапамагала яму ў жыцці. У час амаль двухтыднёвай гаўптвахты, якую далі Шупіцкаму за пранос зняволеным забароненых газет, яму ўдалося вывучыць нават французскую мову.

“Яшчэ ў Адэльску бацька вучыўся два гады на святара, ведаў лацінскую мову. За кошт гэтага яму лёгка даваліся іншыя мовы. Ён любіў шмат чытаць, быў вельмі эрудаваным чалавекам. Аднойчы бацька вырашыў дапамагчы зняволенаму, які папрасіў прынесці газет. Гэтым зняволеным быў сам Сяргей Прытыцкі. Аб гэтай перадачы даведалася начальства і бацьку далі 12 сутак гаўптвахты.

Калі маці насіла яму перадачы, то ён у яе папрасіў прынесці слоўнік французскай мовы. І за той час, пакуль тата сядзеў у турме, яму ўдалося вывучыць чарговую мову. Дзіўна, але тата яшчэ размаўляў і на ідышы – калі ён заходзіў у мясцовыя крамы, то ў яўрэяў заўсёды быў сваім чалавекам. Маці сказаў, што ідыш вывучыў, бо ў той час яўрэі мелі бізнес усюды, і веданне іх мовы дапамагло б яму ў наладжванні кантактаў".

## *Хавалі загінулых нямытымі і не пераапранутымі*

Пелагея Аляшкевіч распавядае, што для Гродна і многіх сем'яў гэтага горада жахі Другой сусветнай вайны пачаліся не ў чэрвені 1941 года, як вучаць у школах, а менавіта з першымі бомбамі ў верасні 1939 года, у той момант, калі Германія напала на Польшчу.

Па ўспамінах Пелагеі, у першы дзень вайны над Гродна кружыў нямецкі самалёт, першыя бомбы якога ўпалі на мост Пілсудскага (Стары мост) і на тэрыторыю турмы, дзе загінулі чатыры супрацоўнікі і адзін вязень.



*Малады Вацлаў Шупіцкі працаваў паштальёнам у гродзенскай турме. Загінуў пасля налёту нямецкай авіяцыі 1 верасня 1939 г.*

“1 верасня 1939 года ў 8.00 бацька, як звычайна, быў на працы. Дзесьці каля дзясятай да нас прыйшла суседка і сказала, што тата загінуў – нямецкія бомбы ўпалі побач з ім. Для нас гэта была страшная і нечаканая страта. Мы сабраліся з сіламі і пайшлі ў турму. Памятаю, што мост пацярпеў ад бомбаў і людзі паклалі дошкі і хадзілі, але машыны ўжо не ездзілі. Мы прыйшлі ў турму, там на тэрыторыі была каплічка, а ў ёй ужо стаяла пяць трунаў, у адной з іх быў бацька. Загінулых не мылі і не пераапраналі, так і пахавалі ў крыві і мундзірах. У трунах іх накрылі белымі прасцінамі”.

Хаваць загінулых было немагчыма, бо немцы працягвалі лятаць над горадам. Доўжылася гэта аж да 17 верасня. У выніку нябожчыкаў здолелі пахаваць на каталіцкіх могілках ноччу. Праз тры дні пасля смерці Вацлава Шупіцкага сям'і заплацілі страхоўку.

### *Моладзь сустракала савецкія танкі кактэйлямі Молатава*

Ужо 17 верасня ў Гродна ўвайшлі савецкія танкі. Польскіх салдат у горадзе практычна не было: хтосьці быў на заходнім фронце, а хтосьці пайшоў абараняць Вільню. Гараджане сустракалі савецкія войскі з кактэйлямі Молатава.

“Абараняла Гродна ад непрыяцеля моладзь, рэшткі салдат і паліцыі. Памятаю, дырэктар аднаго з заводаў напоўніў бутэлькі запальнай сумессю і выдаваў людзям, каб яны гэтым сустракалі танкі. Многія маладыя хлопцы самааддана змагаліся і біліся, у ліку іх быў і Тадзік Ясінскі, якога пасля ранення прывязалі да танка як шчыт. Ведаю, што пасля сёстрам міласэрнасці ўдалося яго забраць у рускіх салдат і перадаць маці. Дык тая маладая жанчына вельмі доўга плакала і праклінала не таго, хто яго забіў, а тых, хто яго паслаў на танкі. Моладзь у Гродне змагалася за свае хаты і сем'і.

Памятаю, што вялікая група гродзенцаў забарыкадавалася ў Доме афіцэраў на Ажэшкі, але саветам атрымалася выбіць абаронцаў. Пасля ўсіх расстралялі на Сабачай горцы”.

### *Памылка Бертэля*

Пелагея распавядае, што былі ў Гродне і тыя, хто сустракаў савецкую армію з кветкамі. У іх ліку быў яе сусед Аляксандр Бертэль, які загубіў сябе і частку сям'і.

“Сям’ю Бертэль мы называлі бандытамі. Яны былі неадукаванымі, але са зброяй. Памятаю, што многія салдаты польскай арміі не жадалі ваяваць, проста не бачылі сэнсу ў гэтым, і ішлі дадому, да сем’яў. Некалькі салдат праходзіла ля дома Бертэля на вуліцы Вігерскай[21], а той з акна пачаў страляць у іх. Салдаты разбегліся і адкрылі агонь у адказ, а пасля падпалілі дом Бертэля. Памылка суседа была ў тым, што ён пачаў страляць па салдатах і не падумаў, што ў яго дома была цэлая сям’я. У выніку ён за гэта паплаціўся – загінулі ён сам і некалькі членаў яго сям’і”.



*Пелагея Аляшкевіч падчас нямецкай акупацыі ў 1943 г.*

Акрамя Бертэля, былі і іншыя гродзенцы, якія віталі “рускіх”. Сусед Пелагеі, добра апрануўшыся, пайшоў да войска са словамі: “Здравствуйте, товарищи!”, а яму ў адказ адзін з “рускіх”: “Иди отсюда! Томбовский волк тебе товарищ!”.

Сям’і Шупіцкіх з 1939 па 1941 гады прыйшлося без бацькі вельмі складана. З пачаткам нямецкай акупацыі ў маці Пелагеі атрымалася ўладкавацца на тытунёвую фабрыку, адкуль яна час ад часу выносіла ў кішэнях тытунь, а пасля прадавала.

“За кошт гэтага мы і жылі. Маці працавала, а мяне пасля аддала ў дзіцячы дом на час. Там мяне кармілі, апраналі і глядзелі. Немцаў у Гродне ніхто не сустракаў, хоць многія ведалі, што яны хутка нападуць. 22 чэрвеня 1941 года мы правялі ў падвалах суседскай ха-

[21] Сучасная вуліца Бертэля.



*Немцы на вуліцах Гродна. 1941 г.*

ты. Там хавалася шмат людзей і было страшна, калі пачаўся моцны грукат, які, здавалася, усё набліжаўся і набліжаўся. Аказалася, гэта не немцы там моцна бамбілі, а савецкія войскі пры адступленні ўзрывалі склады з боепрыпасамі. На наступны дзень мы ўжо бачылі на сваёй вуліцы першых немцаў на матацыклах. Прыгожыя і вясёлыя, частавалі дзяцей цукеркамі і гралі на гармошках. Першай справай яны пайшлі да калодзежаў – мыцца”.

## *Маглі і вывезці ў Сібір*

У вайну Шупіцкім удалося выжыць, нягледзячы на розныя няшчасныя выпадкі. Пасля вайны маці Пелагеі спрабавала, як і многія іншыя гараджане, перабрацца ў Польшчу. Але на запыт прыйшла адмова з Масквы: маўляў, у Варшаве нікога і нічога не засталося.

«Так, Варшава была разбурана, але нашы сваякі былі жывыя. Нас проста не выпусцілі, хацелі, мабыць, выслаць далёка ў Расію, але зрабіць камуністам гэта не ўдалося. Першы раз, калі па нас прыйшлі, мы схаваліся, а пасля перасталі баяцца і нас ужо ніхто не чапаў.



*Пелагея Аляшкевіч у 2017 г.*

Падчас акупацый мне ўдалося скончыць усяго чатыры класы, а пасля я паступіла ў школу фабрычна-завадскога навучання на Замкавай. Там вучылася на закройшчыцу. Жыццё так склалася, што пайшла працаваць на абутковую фабрыку на канвеер. Мой стаж там – 45 гадоў, атрымала ордэн "Ганаровы ветэран працы".

Хто ведае, што было б са мной і маці, а пасля і братам, калі б мы з'ехалі ў Польшчу або Сібір? Лёс нам даў магчымасць застацца ў Гродне і выжыць, чаму мы і былі рады».

# НЯЎДАЛЫ ДОСВЕД «ПАРТЫЗАНКІ»
## (Георгій Юргелевіч)

*Георгій Іванавіч Юргелевіч нарадзіўся ў 1927 годзе ў Гродне. Праваслаўны. Вучыўся ў школе № 8 на Лермантава. Падчас нямецкай акупацыі хацеў сысці ў партызаны, але трапіў у гестапа. Ад расстрэлу выратавалі сваякі.*

### *У дзяцінстве падымаўся на каланчу*

Бацька Георгія Іванавіча нарадзіўся недалёка ад Кузніцы (сёння – Польшча), быў ветэранам Першай сусветнай вайны, а маці была родам з Валыні. Малы Георгій нарадзіўся ў Гродне на вуліцы Віленскай, правучыўся чатыры класы ў восьмай школе на вуліцы Базыліянскай.

“Пры паляках мы жылі над самай Гараднічанкай, у каменным доме, які купіў бацька. Наша сям’я была праваслаўная, і таму бацьку было складана знайсці працу. Але пасля ён прыняў рашэнне ўзяць польскае падданства і перайшоў у каталіцкую веру. І толькі тады палякі далі яму нармальную працу – ён служыў у пажарнай частцы конюхам. Памятаю, як абед яму насіў туды, жылі ж амаль побач. Калі прыходзіў да яго ў частку, мы часам падымаліся на каланчу”.

### *Школа і гарадское жыццё*

Вучобу ў школе Георгій Іванавіч памятае добра: многіх сваіх настаўнікаў і вершы, якія вучыў. Часта пасля вучобы малады гродзенец гуляў з сябрамі на Віленскай. Сярод сяброў былі беларусы, палякі і яўрэі, якія жылі тады ў цэнтры Гродна.

«У школе ў нас была свая форма. Вучыцца мне падабалася, я яшчэ памятаю многія вершы, якія вучылі. Пасля вучобы мы маглі пагуляць на вуліцы, а часам я з бацькамі хадзіў па крамах. У цэнтры



*Пажарныя дружыны каля каланчы на вуліцы Замкавай. Сярод пажарных і бацька Георгія Юргелевіча. 1920–30-я гг.*

Гродна ў нас іх было шмат, і тавар можна было браць “на кніжку”[22]. Бацька як атрымліваў зарплату, хадзіў і разлічваўся за нашу сям’ю. Быў магазін на Віленскай, дзе працавала яўрэйка Сталярка, так у яе часта бралі ў крэдыт. У булачніка побач таксама бралі, але бацька яму потым казаў: калі будуць прыходзіць Юргелевічы, каб больш ні адной кайзэркі (булачкі) не даваў».

## *Аляксандра-Неўская царква, каля якой сустракалі Новы год*

Нягледзячы на тое, што бацька Георгія Іванавіча перайшоў у каталіцтва, ён працягваў хадзіць у царкву, і сваіх дзяцей хрысціў там жа.

“У жыцці мы працягвалі быць беларусамі, а не палякамі. І перад самай вайной бацьку звольнілі з пажарнай часткі: кіраўніцтва даведалася, што ён усё яшчэ прытрымліваўся праваслаўя. Мы ха-

[22] У крэдыт.




*Аляксандра-Неўская царква, пач. XX ст.*

дзілі часта ў чырвоную царкву, Аляксандраўскую, там я нават дапамагаў святарам: раздзімаў печ, падаваў свечкі. Такі звычай быў у праваслаўных дзяцей.

Царква была прыгожая, але ўлады запатрабавалі разабраць яе і перанесці ў іншае месца. Абяцалі пабудаваць новую, дзе стадыён быў футбольны на вуліцы Сабескага. Там жа склалі ўсю цэглу, але падчас вайны яна знікла: людзі ўсё пакралі. Так вось і прапала царква. Наогул, храм быў добры і побач гарадскі парк. Каля царквы мы з сям'ёй заўсёды Новы год сустракалі".

У 1930-х гадах Георгій Іванавіч часта бываў у Архірэйскім доме: на выхадных ён наведваў там дзіцячыя і моладзевыя пакоі для праваслаўных. Нават неяк трапіў на дзень нараджэння архірэя Савы, які запрашаў да сябе ўсіх вернікаў.

## *Яўрэі і праца на немцаў*

Прыходу камуністаў у 1939 годзе Георгій Іванавіч не памятае, а вось падзеі, звязаныя з нямецкай акупацыяй, у яго ўсё яшчэ перад вачыма.

«Пры немцах моцна пакутавалі яўрэі, якіх усіх загналі ў гета. У мяне там было некалькі сяброў. Ганялі іх на ўсе работы ў горадзе:

будаўніцтва, уборка, пагрузка. Быў выпадак, які мне распавядалі: неяк адзін яўрэй кіпень нёс, а да яго немец прычапіўся і загадаў піць. Немец яму з кацялка наліў у рот гэты кіпень. Каты!

На тэрыторыю гета і я трапіў, на Траецкай мы працавалі на нямецкай фірме "Індустрыверк". Там працавалі спачатку яўрэйскія спецыялісты, а пасля іх вывазу сталі клікаць палякаў і беларусаў. Там нас навучылі працы на станках па дрэве».

## *Уцёкі ў партызаны*

У адзін з дзён 1943 года 16-гадовы Генадзь разам са сваім сябрам вырашылі пайсці ў партызаны. Гродзенец кажа, што сваю ролю адыграла пачуццё патрыятызму.

"Раніцай разам з суседам Барысам Грынем вырашылі сысці ў лес да партызанаў. У мяне бацька ваяваў за Расію супраць немцаў у 1914 годзе, брат у войску загінуў, а я што – здраднік? Мы праваслаўныя і павінны былі змагацца за сваю бацькаўшчыну і біцца супраць немцаў. Так і пайшлі пацаны ў лес.

Выявілі нас каля Скідзеля. Спачатку Барыса злавілі паліцаі, калі ён пайшоў даведацца, куды ісці далей, а па дарозе ў Шчучын і мяне ўжо злавілі. Я не павітаўся з паліцаем і праз гэта атрымаў нагой у грудзі. Забралі мяне ў Скідзельскае гета, потым паступіў званок з Гродна і сказалі, што раней затрымалі Барыса, якога адправілі ў горад.

Мяне праз некаторы час на цягніку пад канвоем прывезлі ў Гродна і адразу ў жандармерыю. Сталі дапытваць: я сказаў, што ішоў да знаёмага Трафіма ў Мількаўшчыну. Пасля павезлі ў гестапа на Тэльмана. Завялі ў вялікі пакой, а там ужо быў Барыс, гестапаўцы і ўласаўцы. Спыталі, ці ведаю я Барыса, я сказаў што ведаю – сусед. Сталі біць, а пасля павезлі ў турму. Там нас называлі бандытамі і партызанамі, але мы імі нават не паспелі стаць. Кінулі нас з Барысам у камеру, а там ужо быў Влодэк Мароз – наш агульны сябар. Я пытаюся ў яго: а цябе за што? А ён са слязамі адказаў, што не ведае, чаму яго забралі. Аказваецца, яго забралі як сябра Барыса".

Бацькі Георгія Іванавіча, як даведаліся, што ён у турме, адразу ж сталі шукаць спосабы яго вызваліць. Падключылі сястру Георгія Зіну, якая ў той момант працавала афіцыянткай у рэстаране ў доме купца Мураўёва. Таксама бацькі нагадалі немцам пра дзядзьку-паліцая ў Беластоку.



*Георгій Юргелевіч у 2018 г.*

“Сястра Зіна добра сябравала з адным немцам. Ён звязаўся з гестапа. Потым тата мой сказаў немцам, што наш сваяк Лёнік працуе паліцаем у Беластоку. Яны звязваліся з дзядзькам і ён паручыўся за мяне. У выніку выпусцілі з турмы і адразу ж завезлі зноў у гестапа. Там мне сказалі: калі выжыву пасля 25 удараў палкай, то адпусцяць. Вытрымаў, але гэта дорага каштавала нашай сям’і – заплацілі вялікі выкуп”.

### *Сяброў расстралялі*

Калі Георгію Іванавічу ўдалося выратавацца, дзякуючы сваякам, то вось яго сяброў чакала сумная доля. Іх расстралялі, а бацькам перадалі толькі рэчы.

“Вось такі быў у нас няўдалы досвед партызанкі. Хлопцаў няма, а я цудам застаўся жывы. Былі пацанамі, можа яшчэ не ўсё разумелі. Мяне адпусцілі, я яшчэ нейкі час выходзіў на працу да немцаў, але неўзабаве прыйшлі ўжо савецкія войскі. Перад самым вызваленнем у нас быў у доме яшчэ яўрэй Пілец, якога бацька хаваў ад акупантаў. Калі б немцы даведаліся, то ўсіх бы расстралялі, а так пранесла”.

# ГАРАДСКОЕ ЖЫЦЦЁ І ЯЎРЭЙСКІ ГАНДАЛЬ

## (Ніна Амельянчык)

*Ніна Пятроўна Амельянчык нарадзілася ў Гродне ў 1924 годзе. Праваслаўная. Вучылася ў школе № 8 на Лермантава. У міжваенны час дапамагала бацькам па гаспадарцы. Падчас нямецкай акупацыі выйшла замуж і нарадзіла дзіця.*

Ніна Амельянчык нарадзілася на вуліцы Каліноўскага ў сям'і звычайных сялян, якія на Пярэселцы мелі сваю гаспадарку. Шматразовая акупацыя Гродна і пераезды не пакінулі амаль нічога ад багатага сямейнага архіва сям'і Дуброўшчык (дзявочае прозвішча Ніны Пятроўны).

### *Сям'я і праца на зямлі*

Сям'я ў Ніны Пятроўны была вялікая і складалася з сямі чалавек. Дуброўшчыкі жылі на ўскраіне горада, ля самых Пышкоў. Там у сям'і быў невялікі кавалак зямлі, было некалькі кароў, свінні і куры.

"Усё малако ад кароў ішло ў горад на продаж. У нас былі свае кліенты, якія заўсёды куплялі свежую прадукцыю. Наша сям'я шмат часу праводзіла ў полі: раніцай капалі гліну і везлі яе на вазку прадаваць цагельням. Да абеду рабілі два рэйсы, а пасля абеду займаліся гаспадаркай на полі.

На зробленыя грошы сям'я набывала ўсё больш зямлі. З часам у многіх частках горада ў нас былі свае кавалкі зямлі. Але пасля гарадскія ўлады выдалі закон, што землі павінны быць у адным месцы, і ўсе нашы гектары аб'ядналі і далі на Пярэселцы".

### *Школа і рэлігія*

Ніна Пятроўна вучылася ў школе-“ўсэмцы” на вуліцы Базыліянскай.

“Гэтую школу пабудавалі, калі мне было сем гадоў, гэта значыць у 1931 годзе. А калі мне ўжо было восем, то бацькі мяне адправілі туды вучыцца. Тады школа складалася яшчэ толькі з аднаго памяшкання, дзе быў калідор і па баках кабінеты. Ва ўсіх вучняў была адна форма. У дзяўчынак – чорныя халаты і белыя каўнерыкі, а ў хлопчыкаў – цёмныя касцюмы. Кожны клас у школе адрозніваўся спецыяльнай стужачкай”.

Ніна Пятроўна дагэтуль памятае заняткі польскай мовы, спеваў і рэлігіі.

“Да праваслаўных школьнікаў прыходзіў бацюшка, а да каталікоў ксёндз. А вось да баптыстаў і яўрэяў ніхто не прыходзіў, таму гэтых урокаў у іх не было. Можа гэта падасца сучасным школьнікам дзіўным, але ў нядзелю нам абавязкова трэба было прыходзіць раніцай пад школу, а пасля з вучнямі мы ішлі хто ў царкву, а хто ў касцёл.

Я як беларуска хадзіла ў Архірэйскую царкву на вуліцы Грандзіцкай. Недалёка там была царква з чырвонай цэглы, але яе ўлады разабралі, нягледзячы на тое, што праваслаўныя былі супраць. Хто не хадзіў у нядзелю ў царкву, таго дзяжурныя адзначалі і потым ставілі ніжэй адзнаку. А гэта адзнака па рэлігіі ішла ў атэстат, так што прыходзілася ўсім хадзіць.

Дырэктарам школы ў нас быў пан Вевюрскі, вельмі добры быў чалавек. Ды і многіх сваіх настаўнікаў я ведала добра, бо жылі мы ўсе амаль на адной вуліцы. У школе я адвучылася шэсць класаў з сямі патрэбных. Не скончыла, бо прыйшлі бальшавікі”.

### *Яўрэйскі гандаль*

У міжваенны час жыццё ў горадзе віравала, палякі і яўрэі імкнуліся жыць мірна, нягледзячы на некаторыя канфлікты.

«Іншы раз мяне палякі за спінай называлі кацапкай, бо я была праваслаўная. Але да гэтага я ставілася нармальна. Што тычыцца гандлю, то ў горадзе ён быў цалкам за яўрэямі. З панядзелка па пятніцу ў іх усе гараджане куплялі прадукты і розныя рэчы. Я добра памятаю краму сям’і Гольберг на плошчы Баторыя. Уладальнік вялікай крамы,

якую мы называлі мануфактурай, быў рабінам, яго жонка і дачка там гандлявалі адзеннем і абуткам, яны вельмі любілі сваіх кліентаў.

Адзін раз мы з маці ідзём, а нам крычаць: “Пані Дамброўска, у нас свежы тавар для вашых дачок”. Як зойдзеш, дык яны па некалькі пар абутку прынясуць, розныя тканіны і іншае. Куплялі ў іх.

Перад вайной з немцамі неяк Гольбергі нас паклікалі, а маці кажа: “Гольберачка, мілая, у нас грошай няма”. Яна ў адказ: “Я з вас грошай не прашу. Зло на свеце ёсць, ідзе вайна да нас. Бярыце для сваіх дзяўчынак тканіну”. Маці ўзяла, і гэтай тканіны нам у будучыні хапіла на два касцюмы».

### *1939. Саветы і рэпрэсіі*

Калі прыйшлі бальшавікі, Ніне было 15 гадоў. Тыя часы яна добра запомніла, бо ўвесь горад жыў у страху.

«Саветаў мы не сустракалі, але і не змагаліся з імі. Асабіста я з імі магла размаўляць спакойна, бо ведала рускую мову з царквы.

Аднойчы ранкам я несла малако кліенту ў двухпавярховы драўляны дом на вуліцы Жвіркі. Падыходжу да дому, а там савецкія салдаты з вінтоўкамі стаяць. Я перамагла страх і зайшла ў дом.

На кухні стаяла цяжарная жанчына ў начной кашулі. Побач быў салдат. Жанчына заплакала і сказала: “Дзякуй дзяўчынка, нам больш не трэба малако. Можаце ўзяць у доме ўсё, што хочаце”.

Я спалохалася і пабегла. Пасля ўбачыла, як гэтых гараджан выгналі з дому з адным чамаданам і запіхалі ў машыну. Такая ж гісторыя адбылася са шматлікімі настаўнікамі на нашай вуліцы. Памятаю, як настаўніка Злоцкага забралі, а ён не разгубіўся і ў кузаве машыны на балалайцы пачаў граць.

У той час чэкістаў у горадзе баялася не толькі інтэлігенцыя, але і звычайныя людзі. Мы, сяляне, доўгі час спалі апранутыя і каля печы сушылі сухары, бо баяліся, што і па нас прыйдуць».

### *Забралі швагра*

У 1939 годзе да сям’і Ніны Пятроўны бальшавікі прыйсці не паспелі, але зайшлі да яе швагра, які жыў недалёка.

“Калі яны прыйшлі, швагер якраз быў на працы на тытунёвай фабрыцы. Салдаты дом атачылі і пачалі крычаць, каб адкрылі ім дзверы. Сястра мая адкрыла і сказала, што муж на працы. Салдаты



*Ніна Амельянчык у 1940-я гг.*

паехалі па яго на фабрыку. З тых часоў мы яго і не бачылі. А сястра засталася адна з пяццю дзецьмі.

За што забралі швагра? Напэўна за тое, што ён быў з сям'і эмігрантаў з Расійскай імперыі".

## *1941. Зноў страшна*

У перыяд нямецкай акупацыі сям'я Дуброўшчыкаў жыла ў страху, але спраўна працавала на сваёй зямлі і плаціла падаткі.

«У першы дзень вайны, калі пачалася бамбёжка горада, некаторыя снарады трапілі ў турму і шматлікім вязням удалося ўцячы. Калі турма была адкрытая, гараджане пабеглі туды ў надзеі знайсці сваіх сваякоў, якіх забралі бальшавікі. Я пабегла ў тым ліку, каб знайсці швагра.

Заходжу, а там столькі людзей і ўсе перабіраюць розныя дакументы. Да мяне падышоў былы польскі зняволены і спытаў: "Каго дзяўчына шукае?". Я яму сказала, што шукаю мужа сястры Міхала Бельскага. А ён мне ў адказ: "Не шукайце, яго ўжо няма ў жывых". У турме з людзей моцна здзекаваліся і нямногія вытрымалі.

Паступова ў горадзе сталі з’яўляцца немцы. Іх мы таксама баяліся, бо яны адразу ж пачалі наводзіць свае парадкі: яўрэяў у гета, палякаў і беларусаў на працы. Людзі яшчэ не адышлі ад страху бальшавікоў, як тут прыйшлі новыя карнікі».

## *Яўрэі ратаваліся, як маглі*

Гета, якое было агароджана калючым дротам, Ніна Пятроўна вельмі добра памятае, і памятае мноства людзей, якія там былі. Нягледзячы на небяспеку, сям’і Дуброўшчыкаў удавалася падтрымліваць некаторую сувязь з яўрэямі.

“Выходзіць з гета ім было нельга, толькі на працы. Памятаю, ездзілі адны яўрэі з бочкамі каналізацыі гарадскія чысціць і аднойчы выканалі адзін наш сямейны заказ. Зняволеныя на ўсё былі гатовыя дзеля ежы, і мы папрасілі іх зрабіць надмагільную пліту нашаму бацьку. Зрабілі яны яе хутка, вось толькі вывозілі кавалкамі ў лес. За гэта мы ім далі масла”.



*Дэпартацыя гродзенскіх яўрэяў у гета на вуліцы Замкавай. Лістапад, 1941 г.*

Праз сваю знешнасць Ніна Пятроўна ў маладосці была падобная да яўрэйкі. Іншы раз гэта было для салдат падставай праверыць яе на вуліцах горада.

«Неяк я была на плошчы і нешта купляла, калі рэзка ў мяне аўтаматам тыкае салдат і крычыць: "Хальт Юдэ!"[23]. А ў мяне тады былі чорныя кучаравыя валасы, і я была падобная да тыповай яўрэйскай дзяўчыны. Я спалохалася і нічога не магла сказаць салдату, але добра, што побач апынуліся знаёмыя, якія патлумачылі яму, што я беларуска. Падобная сітуацыя і з братам адбылася. Ён таксама такі чорны быў, як і я. Пасля гэтага выпадку на вуліцу страшна было выходзіць».

За перыяд нямецкай акупацыі Дуброўшчыкі некалькі разоў падвяргалі сябе небяспецы за сувязь з вязнямі гета. Але ў вырашальны момант сям'я не стала пераходзіць самую небяспечную мяжу.

«Памятаю, у адзін дзень у нас у доме з'явіўся вядомы кравец з гета. Як ён адтуль выбраўся, я не ведаю. Але прыйшоў, каб зняць меркі з нас для касцюмаў. Матэрыялам для іх паслужыла тканіна, якую падарылі Гольбергі. Праз некалькі дзён касцюмы былі гатовыя, а мы гэтаму майстру наўзамен далі ежы. Уяўляеце, гэты кравец, які да вайны абслугоўваў толькі багатых, быў гатовы падчас вайны за кавалак хлеба на ўсё.

Перад ліквідацыяй гета ўначы прыбегла да нас і дачка Гольбергаў, прыгажуня Фрума, са сваім мужам і прасіла схавацца. А мы жылі каля самай дарогі, дом быў бачны. Маці сказала ім: "Гольберачка, мілая, ну куды я вас схаваю? У нас немцы ўсюды і няма дзе схавацца. Нас расстраляюць і вам не дапаможам". Нават усе адрыны былі ў нас запоўненыя, а немцы рэгулярна іх правяралі.

Са слязамі на вачах Фрума з мужам сышлі, а куды — ніхто не ведае. Маці таксама доўга плакала, але мы разумелі, што яна не магла іх схаваць, бо прыйшлося б ахвяраваць сваёй вялікай сям'ёй. Ведаеце, і ў мяне на душы было сумна, бо Гольбергі былі добрыя людзі і шматлікім дапамагалі, калі ў іх была магчымасць. Нашы б так не зрабілі.

Пасля ліквідацыі гета мясцовым дазвалялі заходзіць на тэрыторыю, дзе жылі яўрэі, і браць розныя рэчы. Наша сям'я туды не пайшла, бо браць у людзей, якіх адпраўлялі на смерць, было няправільна».

---

[23] *Halt Jude!* – "Стой, яўрэй!" (ням.).

## *Вяселле і роды падчас вайны*

У 19 гадоў, яшчэ калі горад быў пад нямецкай акупацыяй, Ніна Пятроўна выйшла замуж. Праз год, калі вызвалялі Гродна, яна нарадзіла.

“Шлюб быў у саборы на Ажэшкі. Падчас вайны ён нармальна функцыянаваў. Сам вясельны стол быў у доме мужа каля табачнай фабрыкі. Адсвяткавалі і сталі жыць далей. У самым пачатку жніўня 1944 года я ўжо нараджала свайго першага хлопчыка. Гэта адбывалася ў той момант, калі яшчэ была бамбёжка і адыходзілі немцы. Муж мой быў смелы, і калі ўсе стралялі, паплыў на лодцы па акушэрку. За два пуды мукі яму ўдалося перавезці яе на другі бераг, каб яна дапамагла мне нарадзіць. Роды прайшлі паспяхова, акушэрка яшчэ некаторы час наведвала мяне”.

## *Нястача пасля вайны*

Пасля таго як немцы сышлі, Ніна Пятроўна не пайшла нікуды вучыцца і працаваць, а сядзела дома з дзіцём. Пасля з наступнымі.

“Муж пазбегнуў мабілізацыі і ўладкаваўся на чыгунку, а я была дома з дзецьмі. Пасля вайны маю сям’ю і мужаву не хацелі браць



*Вясельны здымак Ніны Пятроўны. 1943 г*



*Ніна Амельянчык у 2018 г.*

на дзяржаўную працу, спасылаліся на тое, што сем'і рэпрэсаваных. Я доўга не працавала. Бліжэй да пенсіі пайшла толькі працаваць у дзіцячы сад. Нічога добрага першы час пры другіх саветах не было. Жыццё так павярнулася, што нам нават па каровіны капыты ноччу ў чэргах даводзілася стаяць".

# ГЕСТАПА Ў СКІДЗЕЛІ І ТУРМА Ў ГРОДНЕ
## (Людміла Тупіцына)

*Людміла Іванаўна Тупіцына нарадзілася ў 1930 годзе ў Расіі, у Іванаўскай вобласці, горад Шуя. У 1942 годзе апынулася ў гродзенскай турме, дзе трымалі закладнікаў з мясцовай інтэлігенцыі. У выніку сям'ю Тупіцыных выслалі ва Усходнюю Прусію на прымусовыя работы.*

У 1941 годзе, перад ад'ездам з Расіі ў Заходнюю Беларусь, 11-гадовая Люда ў родным горадзе вучылася ў трэцім класе, але скончала яго ўжо ў Скідзелі. Фатаграфій з даваеннага жыцця ў сям'і Тупіцыных не засталося, бо іх дом згарэў.

### *Вяртанне на Радзіму*

"Даваенны перыяд я памятаю добра, але нарадзілася я далёка ад Гродна. Пераехалі мы ў Заходнюю Беларусь у сакавіку 1941 года, а ў красавіку бацька ўжо купіў дом у Скідзелі. Бацька ў мяне беларус і нарадзіўся ён у 1900 годзе на гэтых землях. У Першую сусветную ён з сям'ёй быў вымушаны з'ехаць з-пад Скідзеля далёка ў Расію. У эвакуацыі вучыўся, працаваў на фабрыцы, а пасля завёў сям'ю. Вярнуўся ў родны край ён толькі ў 1939 годзе, калі савецкая ўлада прыйшла на заходнія землі. Сваякі, якія жылі ў Скідзелі, агітавалі яго, каб ён заставаўся і прывёз з сабой сваю сям'ю. Так і паступіў, што аказалася, магчыма, і памылковым рашэннем".

### *Немцы прыйшлі ў Скідзель*

Тупіцыны прадала дом за 25 тысяч рублёў у Расіі і пераехалі ў Скідзель. Па ўспамінах Людмілы Іванаўны, у пачатку 1940-х гадоў дамы там былі страшныя ў параўнанні з тымі, якія яна бачыла ў Расіі.

“У выніку бацька знайшоў адзін добры дом у Скідзелі і купіў адну яго частку, а ў іншай ужо жыла сям’я Ільюшэнка. Калі не памыляюся, галава сям’і быў першым сакратаром райкама партыі Скідзеля. Калі прыйшлі немцы, ім далі машыну на сям’ю і яны з’ехалі, а мы засталіся.

Немцы прыйшлі да нас праз два дні пасля пачатку вайны. Мы ў той момант хаваліся ўжо ў вёсцы каля горада, а калі вярнуліся ў Скідзель, то ад нашага дома нічога не засталося – ён згарэў. Дом спаліў сусед-татарын, які яго хацеў купіць, але савецкая ўлада не дазваляла яму набываць другі будынак. У выніку пры немцах мы ўжо пасяліліся ў знаёмых, а да канца года акупацыйная ўлада забрала нас і вывезла ў яўрэйскае гета, якое знаходзілася на тэрыторыі ваеннага аэрадрома”.

### *Скідзельскае гета і зямлянкі*

Праз некалькі месяцаў пасля ўсталявання акупацыйнага рэжыму яўрэяў Скідзеля сагналі ў гета, якое размясцілі за калючым дротам на тэрыторыі былога ваеннага гарадка. Шэсць драўляных дамоў не змаглі змясціць усіх, таму многія заставаліся пад адкрытым небам, спехам капалі зямлянкі. Да восеньскіх халадоў, якія выклікалі хваробы, дадаўся яшчэ і страшны голад, людзі былі даведзеныя да знямогі. Мёртвых закопвалі проста на тэрыторыі гета. Выжыць удалося адзінкам.

“У гета трапіла каля 15 савецкіх сем’яў. Нас усіх кінулі да яўрэяў, як нейкіх злачынцаў, і жылі мы ў ямах-зямлянках. На ноч яўрэйскія сем’і, якія жылі ў дамах, бралі нас [дзяцей – *аўт.*] да сябе, каб мы не замярзалі. Праз некаторы час савецкія сем’і перавезлі ў гестапа. А яўрэі так і засталіся ў гета, якое пасля знішчылі. Яўрэі, напэўна, ведалі, што з імі будзе, але нічога не рабілі. Мне здаецца, яны павінны былі змагацца і стварыць якое-небудзь паўстанне, так хоць бы некаторая частка засталася ў жывых”.

### *Турма ў Гродне*

Бліжэй да вясны 1942 года са скідзельскага гестапа савецкія сем’і, у тым ліку і Туціцыных, перавезлі ў турму ў Гродна. Людміла Іванаўна на ўсё жыццё запомніла некалькі месяцаў, праведзеных у камеры.

“У камеры было шмат людзей, прайсці нідзе нельга было. Іншы раз ледзь не седзячы спалі. Кармілі нас тры разы на дзень: раніцай кавалачак хлеба з апілкамі і нешта тыпу кававага напою; на абед



ліцыі
Управа
Акругу

АБВЕСТКА

13-га кастрычніка, каля 8 гадзін, у часе выконваньня службы б
ліцэйскі ўрадовец, а польскі паліцыянт з успамагаўчае службы так
жа дзень памёр.

ойцай, як сьцьверджана, зьяўляецца паляк др. права Вітольд Матушэвскі, радз. 2.7.1914 у
ў апошнім часе ў кал. Славно, гміны Даброва, які пасьля падвойнага забойства ўцёк на
пражываўш

Апісаньне злачынцы: сярэдняга росту, шырокаплечы, галубы вочы, чорныя, зачэсаныя назад ва
забойства М. быў апрануты ў чорныя боты, сьветла-шэрае габардзінавае пал

Я загадаў арыштаваць, як заложнікаў, 100 палякоў з гораду Горадні і Сакольскага павету
цяпер у руках насельніцтва. У выпадку, калі злачынца сам ня зьявіцца да 18.10.1942
ных знаходзіцц паліцыі, супроць арыштаваных будуць застасованы найбольш суровыя меры.
ня выдасьць яго

КІР

*Аб’ява часоў нямецкай акупацыі Гродна. У ёй напісана, што Вітальд Матушэўскі забіў нямецкага салдата і польскага паліцыянта. У сувязі з гэтым акупацыйная ўлада бярэ ў закладнікі 100 чалавек з Гродна і Сакольскага павета*

давалі бульбін пару і буракі, якія раслі на тэрыторыі турмы; а ўвечары была зацірка. Жудасна было сядзець, дык нас нават на шпацыр не выводзілі. Жанчын і дзяцей трымалі асобна ад мужчын. З намі ў камеры сядзелі сем’і са Скідзеля. Памятаю, што ў адной жанчыны захварэлі дзеці, дык немцы іх узялі нібыта лячыць і не вярнулі. Гэтая жанчына за адну ноч пасівела. Пасля зняволеныя не казалі немцам, што ў іх хварэюць дзеці. Чым займаліся некалькі месяцаў у турме? У акно глядзелі пастаянна”.

### *Закладнікаў вывозілі на расстрэл*

За некалькі месяцаў Людміла, якой у 1942 годзе было ўсяго 12 гадоў, вывучыла турму і яе зняволеных.

“У 1942 каля Гродна хтосьці забіў двух немцаў. А тады быў выдадзены закон: калі забіваюць аднаго немца, то бяруцца ў закладнікі

100 чалавек цывільных. А забілі, як нам казалі, двух немцаў, і ў турму прывезлі шмат чалавек з Гродна. Нас на прагулкі не выпускалі, а гэтых людзей можна было ўбачыць у двары турмы кожны дзень.

Мне было добра бачна гэтых людзей. Памятаю жанчыну з двума дзецьмі: хлопчыкамі-блізнюкамі. Святароў памятаю і іншых. Напэўна, гэта былі прадстаўнікі інтэлігенцыі, бо ўсе былі добра апранутыя. Адной ноччу гэтых людзей пачалі вывозіць на расстрэл. Ля турмы навокал былі крыкі, але пры гэтым стрэлаў не было чуваць. Нам, дзецям і жанчынам у камеры, было страшна. Мы сядзелі і не ведалі, што будзе з намі. Немцы самі ў камеру да нас не прыходзілі, а толькі часам паліцаі сачылі за парадкам”.

### *Працы ва Усходняй Прусіі*

Праз некаторы час бацькоў Людмілы Іванаўны немцы сталі выклікаць на допыты, дзяцей пры гэтым не чапалі. Пасля некалькіх месяцаў у камеры сям’ю Тупіцыных перавялі ў іншае памяшканне на тэрыторыі турмы, дзе ўжо можна было выходзіць. Як выявілася, сям’ю рыхтавалі да вывазу ва Усходнюю Прусію.

“З Гродна нас цэлай сям’ёй адправілі на таварных вагонах да самай Усходняй Прусіі, у горад Растэнбург. Везлі да сартавальнага лагера. Там у нас упершыню за доўгі час была магчымасць памыцца. Пасля лагера нас перавезлі ў горад Бартэнштейн, а адтуль забралі працаваць у маёнтак.

Працавалі мы на палях. Кожную раніцу прыходзіў брыгадзір і казаў, якой працай займацца. Спачатку я пасвіла авечак па цэлым дні, потым працавала на агульных працах. На харчаванне мы атрымлівалі карткі, вядома, не такія, як немцы, але ўсё адно было лепш, чым сядзець у канцлагеры. Побач з намі працавала сям’я з Польшчы, два французскія салдаты і тры польскія”.

### *Дадому ў Беларусь не спяшаліся*

Тупіцыных і іншых вывезеных у 1945 годзе вызвалілі савецкія салдаты. Але вяртацца ў Заходнюю Беларусь сям’я не спяшалася.

«Мы спачатку не ведалі, што прыйшлі нашы салдаты, бо з фронту адыходзіла шмат “уласаўцаў”, якія ў нас забіралі ежу. У адзін дзень неяк ідзём і чуем часта рускую мову. Спачатку не маглі раза-

браць, хто гэта, а потым зразумелі, што гэта ўжо Чырвоная армія прыйшла. Так нас і вызвалілі.

Маёнтак мы адразу не пакінулі і яшчэ некаторы час жылі там. Неяк з адной дзяўчынкай вырашылі схадзіць у бліжэйшы гарадок Домнаў і ўзяць у краме сабе рэчаў, бо абуць і апрануць у нас нічога не было. Дайшлі да горада – і нас заўважылі савецкія салдаты і завялі ў камендатуру. Мы распавялі, навошта прыйшлі ў горад, там з нас рагаталі, а потым камендант сказаў, каб мы перадалі бацькам, што ён іх хоча бачыць. Мы перадалі, і бацькі прыйшлі. Камендант сказаў, каб яны не спяшаліся ехаць дадому, бо патрапіць туды будзе цяжка праз нямецкія групоўкі. Прапаноўваў лепш трохі пачакаць, пакуль фронт пройдзе далей і калі адновяць чыгунку».

### *Пасля вайны пасяліліся ў Гродне*

На час Тупіцыны пераехалі ў Домнаў і пасяліліся каля камендатуры. Было вельмі шмат вольных дамоў, бо амаль усе немцы пакінулі горад.

“Маці дапамагала на кухні, а бацька працаваў на кані і перавозіў неабходнае. Мы прабылі ў Домнаў да мая і ў гэтым жа месяцы вярнуліся ў Скідзель. Ехалі дадому праз Літву на цягніку. Ужо па прыездзе праходзілі допыты і расказвалі, як мы трапілі ў Нямеччыну, і многае іншае.

У Скідзелі жыць і працаваць нам не было дзе, пераехалі ў Гродна, дзе нам далі двухпакаёвую кватэру на рагу Моладзевай і Карла Мар-



*Панарама разбуранага Гродна, лета 1944 г.*



*Людміла Тупіцына ў 2018 г.*

кса. Я пайшла ў школу вучыцца, а бацька з маці на працу. Бацька працаваў на жывёлазаводзе ў Пышках, дзе часова змяшчалася быдла, якое пешым парадкам праз лясы і балоты вялі з Нямеччыны. Да вайны ў нас тут былі каровы розныя, у асноўным карычневыя. А пасля з’явіліся і чорна-белыя, якія былі тады толькі ў Нямеччыне”.

# «ЯК БЫЎ ПАЛЯКАМ, ТАК І ЗАСТАЎСЯ»
## (Генрых Юхневіч)

*Генрых Станіслававіч Юхневіч нарадзіўся ў 1927 годзе ў вёсцы Адамавічы, а з 1937 года пастаянна жыве ў Гродне на вуліцы Працоўнай. Вучыўся ў "батаруўцы". У міжваенны перыяд біўся з мясцовымі хлопцамі. У перыяд нямецкай акупацыі гродзенцу ўдалося пазбегнуць вывазу на прымусовыя работы ў Германію.*

### *З вёскі ў горад*

Праз 10 гадоў пасля нараджэння Генрыха бацькі прынялі рашэнне пераехаць у Гродна. Пачалося ўсё з парады аднаго яўрэя.

«Яны ведалі, што будзе вайна і ў Гродна прыйдуць рускія. Бацька, будучы яшчэ ў вёсцы, часта там гандляваў і ведаў вельмі многіх яўрэяў. І адзін яму казаў: "Вайна будзе, прыйдуць бальшавікі, яны будуць вывозіць багатых у Сібір. Прадавай сваю зямлю і едзь у горад". Бацька ў мяне быў нябедны чалавек, меў на вёсцы вельмі вялікую гаспадарку».

У тыя гады, калі на якой-небудзь безгаспадарнай зямлі ў Гродне за ноч паспявалі паставіць буду з печкай, то ўжо можна было спакойна будаваць далей дом. Казалі, калі дымаход ёсць, значыць жылая плошча.

"Мы купілі дом у жанчыны-адваката. У яе былі два дамы: адзін на Брыгіцкай, другі на Працоўнай. І вось другі разам з зямлёй мы купілі крыху больш чым за 3000 злотых. У Гродне бацька і маці гандлявалі на рынку. У нас на ўчастку былі каровы, бацькі рабілі масла і тварог і ўсё гэта прадавалі на Сенным рынку".

## *У школу за 11 кіламетраў*

«У школу гродзенскую я пачынаў хадзіць з Адамавічаў. Мне было 10 гадоў, прыходзілася па 11 км хадзіць у горад, але гэта калі аўтобуса не было. Білет на аўтобус "Гродна–Сапоцкін" каштаваў 5 грошай. Бацькі адпускалі мяне і не баяліся, а тады і не было чаго баяцца, акрамя сабак».

Генрых два месяцы такім чынам дабіраўся на вучобу з Адамавічаў у Гродна, пакуль сям'я не пераехала ў горад. Ён хадзіў у школу імя Стэфана Баторыя.

«У нас была свая форма з фуражкамі, называлі іх "рагатыўкі", там былі лічбы з нумарам класа. У польскай школе я скончыў толькі пяць класаў».

## *Вясковы хлеб супраць гарадскіх булак*

У гарадской школе вясковага хлопца сталі паважаць не адразу. Вучні лічылі, што жыхары вёсак – адсталыя. Казалі: "ты хам-мужык з вёскі". Праз гэта Генрых пабіўся ў чацвёртым класе.




*Школа "батаруўка" ў пачатку 1930-х гг.*

«Хлапчук з шостага класа падышоў і штурхнуў мяне, а я, доўга не чакаючы, абярнуўся і пачаў яго лупіць. Я яго так адлупцаваў, я ж быў вельмі моцны, бо еў хлеб вясковы, а яны, гарадскія, елі булкі і былі праз гэта слабыя. Я яго так адчыхвосціў, што наша бойка дайшла да дырэктара. Хлопчык, якога я пабіў, быў сынам польскага афіцэра. Выклікалі яго бацькоў, мой бацька прыйшоў таксама. Я патлумачыў, праз што пабіўся. Дырэктар быў добры і сказаў таму хлопцу з шостага: "Якое ты права меў так гаварыць? " Казаў, што са школы за такія ўчынкі можа выключыць».

## *Турмы не ўсе баяліся*

«Жыды таксама гаварылі на мяне "хам-мужык". Іх было шмат, але мы за гэта іх чыхвосцілі. Раней, калі ў суботу ў яўрэяў быў шабат, то яны дзесьцi збiралiся, а тым часам палякi на iх нападалi. Жыдоў адлупілі – і яны ўжо супакояцца.

Суда як такога тады не было, ды і турмы былі нармальныя. Напрыклад, жулік возьме камень і выб'е жыду шыбу ў краме. Паліцыя яго забірае. Шкоду зрабіў – плаці. Грошай няма – на тры месяцы за краты. Ён ідзе ў турму, сядзіць усю зіму і вясной выходзіць. Тады турмы не так баяліся».

## *Камуністы сярод яўрэяў*

У Гродне сярод яўрэяў было шмат камуністаў, якія чакалі савецкую ўладу.

«Казалі, пры паляках ім дрэнна жывецца, а калі прыйдзе Савецкі Саюз, то яны зажывуць. А камуністы прыйшлі і ўсіх гэтых багатых – у Сібір. Потым казалі: "Мы чакалі іх, а яны вывозяць". Яўрэяў у горадзе было шмат і яны былі багатымі. Яшчэ да вайны многія яўрэі беглі да нас з Германіі, а потым і з Польшчы. Мае бацькі з яўрэямі сябравалі і хадзілі да іх у крамы. Бацька добра ведаў яўрэйскую мову і гэта дапамагала ў гандлі. Яўрэі танней прадавалі і давалі ў крэдыт надоўга, а паляк на тыдзень дасць і больш не дае».

## *1939. "У дупе твая Польшча"*

У горадзе казалі, што будзе вайна з немцамі, але калі менавіта – ніхто не ведаў. 1 верасня прыляцелі нямецкія самалёты і пачалі скідваць бомбы на горад.

“Хацелі на мост, але снарад упаў бліжэй да берага і аднаго хлопца забіла”, – успамінае спадар Генрых.

Кідалі бомбы на воданапорныя вежы, але не патрапілі. Немцы так і не ўвайшлі ў горад, а неўзабаве прыйшлі бальшавікі.

“Памятаю, выйду да Каложы – і ўсё відаць: як стаялі савецкія танкі на адным беразе, а на другім баку палякі. Біліся гродзенцы супраць іх, былі добраахвотнікі, нават з вёсак прыходзілі абараняць Гродна. Я не быў у харцэрах, але ведаю, што падчас абароны яны падрывалі савецкія танкі. Я жыў крыху далей цэнтра, магчыма таму абарона прайшла міма мяне. Абаронцы трымаліся доўга і не пускалі ў горад савецкія часткі. Быў выпадак, што бальшавікі ўзялі 12-гадовага хлопчыка і прывязалі яго да танка, і ехалі па Савецкай. Яго так і забілі. Памятаю таксама на Савецкай быў падбіты танк, а адзін уехаў у сцяну кінатэатра”.

Спадар Генрых успамінае, што мясцовыя яўрэі дапамагалі бальшавікам увайсці ў горад. Каля сінагогі яны паставілі кулямёт, з якога стралялі па польскіх салдатах, стралялі і з вокнаў. Палякі адстрэльваліся.

«У нас з дома гэта ўсё добра было відаць. Ужо пасля прыходу бальшавікоў адных малых яўрэйчыкаў мы білі за тое, што яны спявалі камуністычныя песні. Памятаю, на Замкавай мне казалі яўрэі: “Няма тваёй Польшчы, у дупе твая Польшча”. Біліся за гэта».

### *1941. Уцёкі рускіх*

“Вайна для мяне пачалася зноў з самалётаў – яны бамбілі горад. Рускія ўцякалі, хтосьці нават у кальсонах. Потым шмат палонных немцы гналі на Сапоцкіна. Калоны палонных я добра памятаю: наперадзе машына з кулямётам і па баках салдаты. Немцаў у ахове было мала, у асноўным літоўцы былі. Палонным дапамагалі мясцовыя”.

### *Праца на зямлі і “адмазка” ад Германіі*

“За немцамі я працаваў у Адамавічах на зямлі, якая ў нас яшчэ была. Пасля продажу было яшчэ некалькі гектараў. Тата ў час вайны застаўся ў Гродне, даглядаць дом, а мы з мамай і сястрой паехалі ў вёску, але часта да яго прыязджалі. Я апрацоўваў поле, араў, сеяў і вельмі добра жыў. У нас было ўсё. Пры немцах у нас былі каровы, куры, свінні, трусы. Прыходзіш да немцаў і кажаш: няма чым засеяць. То давалі і потым казалі: аддасі не раней чым праз 5–6 гадоў”.

Генрыха маглі забраць у Германію, як і многіх іншых гродзенскіх падлеткаў. Але яго брат уладкаваўся кур'ерам у гміне, і калі Генрыха запісалі на выезд у Германію, то дзякуючы брату паперу перапісалі.

"Упісалі туды дзяўчыну, імя якой было падобнае да майго. Яна была дурнаватая, немцы паглядзелі на яе і не ўзялі".

Красці пры немцах нельга было. «Трох мужыкоў павесілі ў Гродне на браме аднаго з дамоў, калі яны рабавалі яўрэйскія хаты. Немец казаў так: "Пры паляках краў, пры рускіх краў, але пры немцах красці не будзеш"».

### *Мянялі сала на падушкі*

"Памятаю, як ставілі гета і туды ўсіх яўрэяў зганялі. Вакол была ахова, памятаю ў нізіне аднаго ахоўніка з сабакам. Першы час немцы дазволілі мясцовым падыходзіць да гета і мяняць розныя рэчы. Шмат вясковых прыязджала. Пасля гета абгарадзілі і падыходзіць забаранялі. Неяк адны з вёскі прыехалі мяняць сала на падушкі. Немец убачыў іх на



*Групавы здымак гродзенскіх яўрэяў у гета*



*Генрых Юхневіч са сваёй сваячкай,*
*пасляваенныя гады*

горцы і застрэліў. Памятаю, як на працы яўрэяў гналі. Раніцай выганялі з гета, а ўвечары прыводзілі. Тое, што яўрэяў потым пачалі вывозіць на знішчэнне, ніхто з мясцовых не ведаў. Нават самі яўрэі гэтага не ведалі”.

Спадар Генрых успамінае, як яўрэі прыходзілі да яго бацькі і прасілі іх схаваць, але той іх не ўзяў. Станіслаў Юхневіч сказаў, каб яны шукалі прытулак дзе-небудзь у іншым месцы, бо калі б немцы даведаліся, што ён хавае яўрэяў, то расстралялі б усю сям’ю.

Генрых Станіслававіч успамінае некаторых яўрэяў, якім удалося выжыць. Адзін у 1939 пайшоў у савецкае войска. Іншы – цырульнік па прозвішчы Грандзіцкі – таксама неяк здолеў захаваць жыццё.

### *1944. Складанае вызваленне*

“Увайсці ў горад савецкім салдатам немцы доўга не давалі. Па расказах ведаю, што праз Нёман ім цяжка было пабудаваць мост: палову пабудуюць – і немцы пачынаюць бамбіць. Вёскі каля горада па разы чатыры бралі, нашы Адамавічы дык дакладна”.



*Від з вуліцы 17 верасня на падпалены Гродна. ліпень 1944 г.*



*Генрых Юхневіч у 2018 г.*

### *“Як быў палякам, так і застаўся ім”*

Пасля вайны, як пачалі ствараць калгасы, Генрых канчаткова пераехаў у горад. Уладкаваўся пажарным, працаваў там да 1950 года. У савецкую армію служыць не пайшоў: падмануў з датай нараджэння.

“Ніхто не хацеў на цаліну, а тады салдат туды везлі. Я сябе лічу палякам. Дзе б я ні жыў – карані ў мяне польскія. Я каталік. Мне ніколі не было розніцы, хто побач жыве са мной: рускі, беларус або яўрэй. Я жыву і мне добра. Я як быў палякам, так і застаўся ім. Я сваёй нацыі не зракуся”.

# ПРАЗ 70 ГОД ПРАЙСЦІСЯ ВУЛАЧКАМІ ДЗЯЦІНСТВА

## (Крысціна Адлер)

*Крысціна Адлер нарадзілася ў 1937 годзе ў Гродне. Яе сям'я перажыла вайну ў родным горадзе, але адразу па заканчэнні пераехала ў Польшчу. Гродзенка вярнулася на радзіму толькі ў 2017 годзе.*

Крысціна Адлер, у дзявоцтве Адамін, нарадзілася на тагачаснай вуліцы Грандзіцкай. Прозвішча яе мамы – Кітурка. Праз 70 год пасля таго, як Крысціна пакінула родны горад і пераехала з бацькамі ў Гданьск, яна вырашыла знайсці родны дом і распавесці сваю гісторыю.

### *Пакінуць горад было няцяжка*

“Мы былі звычайнай гродзенскай сям'ёй, жылі ў камяніцы на Грандзіцкай. Бацькі працавалі, дзе – ужо не памятаю, але мы не бедавалі. Пасля шэрагу акупацый нашага горада мы з бацькамі вымушаны былі яго пакінуць. Зрабілі гэта адразу пасля вайны ў 1946 годзе. Мы ехалі першым транспартам, які вывозіў палякаў на захад. Цяжкасцяў пакінуць горад не было. Ехалі на зборачны пункт каля месяца, ён знаходзіўся ў месцы Шчацінак. Там збіралася шмат тых людзей, хто пакінуў Гродна, Вільню, Брэст і іншыя гарады. Мы збіраліся ехаць у Быдгашч, але паехалі ў Гданьск”.

### *Мара – убачыць дом дзяцінства*

Сям'я Адамін з Гродна абаснавалася ў Польшчы. Праз нейкі час Крысціна выйшла замуж за немца, які прапаноўваў ёй з'ехаць у Германію, але гродзенка гэта рабіць не захацела.



*Гродна ў 1930-х гг.*

“Я засталася ў Польшчы і 40 гадоў жыву адна з дачкой. Ехаць у Нямеччыну не хацела, бо мне было страшна, ды і мовы я не ведала. І так усё жыццё пражыла ў Польшчы. У тое месца, дзе я нарадзілася, цягнула ўсё жыццё, але прыехаць у родны горад не было магчымасці. 28 мая 2017 года мне споўнілася 80 гадоў і на старасць я ўсё ж вырашыла з дачкой і ўнучкай прыехаць. Я доўгі час марыла прыехаць у Гродна і ўбачыць дом дзяцінства. Я адзіная засталася са сваёй сям’і, хто быў з гэтага горада, усе ўжо памерлі”.

Сучасны Гродна Крысціне спадабаўся, некаторыя месцы свайго дзяцінства яна пазнавала, а штосьці ўжо забылася.

### *“Мамаша, Гітлер – капут”*

«Мы з сям’ёй жылі на вуліцы Грандзіцкай, памятаю, што на доме была лічба 9, але вось дакладны нумар не памятаю. Жылі ў камяніцы на першым паверсе, а ў падвале працавалі цырульнікі. Я памятаю, што мы часта з сябрамі гулялі каля больніцы, зімой там на санках

з'язджалі. На яўрэйскія могілкі хадзілі, там былі вялікія помнікі. Але я не скажу, што самі могілкі былі вялікія.

Памятаю, што недалёка ад дома быў рынак і аптэка. Калі пачалася вайна, як з саветамі, так і з немцамі, я была яшчэ маленькая, але некаторыя моманты ў маёй памяці засталіся. У бамбардзіроўку ў 1941 годзе мы з сям'ёй хаваліся доўгі час у агародах ля могілак. А пасля на некалькі дзён перабраліся ў спецыяльную хованку. А вось калі ўжо прыйшлі дадому, то ў нас у кватэры пасяліліся немцы. Страшны быў час. Калі ўжо прыйшлі другія саветы, памятаю, яны казалі маёй маці: "Мамаша, мамаша – Гітлер капут".

Памятаю, як на вуліцах Гродна яўрэяў хапалі і гналі ў гета, не любілі іх. Дарэчы, маці расказвала, калі мне было некалькі тыдняў, я хварэла, і толькі ў яўрэйскай бальніцы мяне атрымалася выратаваць. Яшчэ з даваеннага Гродна трохі памятаю, як хадзілі ў нядзелю ў Фару маліцца, яна знаходзілася каля пляца Баторыя».



*Крысціна Адлер шукае свой былы дом. 2018 г.*

### *Шчасце прайсціся па вулачках*

Каля дзвюх гадзін жанчына з дачкой і ўнучкай, а таксама яшчэ адной ураджэнкай Гродна, хадзілі па вуліцы Горкага ў пошуках дома № 9. Дом знайшлі, але ён выявіўся не тым. Тады Крысціна адправілася з сям'ёй да больніцы і стадыёна на вуліцы Камунальнай. Менавіта там раней знаходзіліся яўрэйскія могілкі, але і там жанчына не змагла зарыентавацца.

"Я думала, што ўбачу больніцу і яўрэйскія могілкі і адразу ўспомню, дзе быў мой дом, але ўсё так змянілася да непазнавальнасці, што знайсці роднае гняздо ўжо проста немагчыма. Хутчэй за ўсё, дом знеслі. Але ўсё ж я не шкадую, што прыехала ў Гродна. Праз доўгія гады прайсціся па тых вулачках, дзе калісьці бегала – гэта шчасце. Гродна вельмі прыгожы горад і, нягледзячы на тое, што ўжо многіх пабудоў няма, ён усё роўна ўнікальны і будзе заўсёды такім. Любіце і шануйце свой Гродна".

*Навукова-папулярнае выданне*

**Кулевіч** Руслан Часлававіч

# Горад адзін, успаміны розныя

## Гродна 1930–40-х вачыма жыхароў

Рэдактар *Аляксей Шота*

Дызайн вокладкі *Вольга Новік*

Макетаванне *Надзея Вішнеўская*

Карэктар *Надзея Вішнеўская*

ISBN 978-985-7134-60-1



16+

Падпісана ў друк 24.12.2018. Фармат 60 × 84 1/16. Папера афсетная.
Ум. друк. арк. 6,74, Ул.-выд. арк. 3,47.
Наклад 150 паас. Замова 60-1/2018.
Выдавец і паліграфічнае выкананне:
Таварыства з абмежаванай адказнасцю "ЮрСаПрынт".
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца,
вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў
№ 1/388 ад 01.07.2014 г.
Вул. Карла Маркса, 11, 230015, г. Гродна.
+375 152 77 18 20
+375 295 87 84 11